Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 30 (4779) 1 жніўня 2014 г.



# Першая сусветная. Стагоддзе

Янка Купала ў 1908—1909 і 1913—1915 гадах быў супрацоўнікам і рэдактарам газеты «Наша Ніва», якая з Вільні разыходзілася па ўсёй Беларусі і за межжы. З яе старонак даведваліся беларусы пра падзеі ў родным краі, імперыі і свеце. У 1914 годзе газета паведамляла пра трывожныя касмічныя з'явы, камету і сонечнае зацменне, а потым прынесла трагічную вестку: пачалася вайна. Белыя плямы на старонках «Нашай Нівы» замест антываенных артыкулаў сталі знакам пазіцыі аўтараў і самога рэдактара — Янкі Купалы. У вершах ваеннага часу, асабліва ў цыкле «Песні вайны» (1914), апублікаваных у «Нашай Ніве», у артыкулах «Хай рунь красуе», «Чвэрць года вайны», «Вайна і самапомач» паэт выступае супраць вайны і яе нягод, падкрэслівае мужнасць і правату абаронцаў радзімы, неабходнасць дапамогі пацярпеламу мірнаму насельніцтву, сялянам, якія і ў цяжкія ваенныя гады сеюць хлеб.

Шляхамі вайны трапіў у Вільню ў якасці ваеннага карэспандэнта паэт-сімваліст Валерый Брусаў. Знаёмства паэтаў стала творчым сяброўствам: з'явіліся цудоўныя пераклады твораў беларускага Песняра на рускую мову. Час захаваў аўтографы аўтара і перакладчыка верша «Адцвітанне», выдатнага ўзору філасоўскай лірыкі Янкі Купалы.

З набліжэннем фронту да Вільні выхад газеты «Наша Ніва» спыніўся. Янка Купала выехаў у эвакуацыю. Светлай падзеяй асабістага жыцця паэта стала вянчанне ў касцёле святых Пятра і Паўла ў Маскве з Уладзіславай Станкевіч, настаўніцай і аўтарам вершаў для дзяцей.

У 1916 годзе Янка Купала быў прызваны ў войска. Сведчаннем часоў яго службы ў дарожна-будаўнічым атрадзе Варшаўскай акругі шляхоў зносінаў з'яўляюцца фотаздымкі швагра паэта Вікенція Станкевіча, з унікальнага альбома-хронікі, якія будуць экспанавацца ўпершыню.

«Я — шлях, якому век няма спакою» — доўгатэрміновы выставачны праект Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, прысвечаны жыццю і творчасці Песняра ў гады Першай сусветнай вайны. У Купалавым доме на 15 жніўня запланавана адкрыццё выстаўкі, аснову якой складуць экспазіцыйныя плакаты, а таксама арыгінальныя рэчы з фондаў музея.

**Марыя БАРТКОВА**




*Здымак прадастаўлены Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы*

*«Чвэрць года крывавых змаганняў паміж мільёнамі! Сто дзён без мала ліецца чалавечая цёплая кроў. Сто дзён кладуцца покатам без часу тысячы нябожчыкаў ды з дымам пажараў ідуць сялібы і ў поце запрацаванае дабро людское... Шал нейкі апанаваў усю Еўропу. Уваружаны мірспакой здрадзіў яе. Людзі захлёбваюцца ў сваёй жа свяцчонай крыві і гінуць у вогнішчах, сваімі ж рукамі распаленых».*

**Янка Купала «Чвэрць года вайны», 16 студзеня 1915 г.**

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Перад святам слова



На пачатку верасня ў Заслаўі адбудзецца Дзень беларускага пісьменства. Як рыхтуецца да ўрачыстасці пісьменніцкая арганізацыя? З гэтым пытаннем карэспандэнт «ЛіМа» звярнулася да першага сакратара СПБ Генадзя Пашкова.

— Саюз пісьменнікаў Беларусі рыхтуецца да свята загадзя. Так, у межах ініцыяванай Міністэрствам інфармацыі Беларусі акцыі «Лета з добрай кнігай» літаратары і супрацоўнікі ААТ «Белкніга» выязджаюць у дзіцячыя аздараўленчыя лагеры на сустрэчы з юнымі чытачамі, якія падчас такіх імпрэз маюць магчымасць набыць кнігі членаў СПБ з аўтографамі.

Сустрэчы ў межах акцыі актыўна праходзілі на Гродзеншчыне, а таксама ў Жодзіне, у сталічным Цэнтральным дзіцячым парку імя Максіма Горкага, на пляцоўцы каля Палаца спорту. А 1 верасня ў школах рэспублікі традыцыйна адбудзецца Дзень ведаў: пісьменнікі распавядуць вучням пра навінкі айчыннай літаратуры, у тым ліку і пра ўласныя творы. Кіраўніцтва СПБ ужо атрымала некалькі заявак, цягам жніўня, мяркую, іх колькасць павялічыцца. Штогод мы праводзім і конкурс «Лепшы твор года», заснаваны Саюзам пісьменнікаў Беларусі сумесна з міністэрствамі інфармацыі, адукацыі, культуры і Мінгарвыканкамам.

**— Ці шмат творцаў падалі заяўкі на конкурс «Лепшы твор года—2013»? Ці адлюстроўваюць літаратары ў сваіх творах сучасную рэчаіснасць?**

— Да нас паступіла каля 50 заявак. Несумненна, пісьменнікі асвятляюць сённяшнія рэаліі — і ў паэзіі, і ў прозе, і ў іншых жанрах. Сярод паэтаў-намінантаў няма ніводнага, хто б ні закрануў у вершах сучаснасць.

**— Якіх сюрпрызаў чакаць нам ад сёлетняга «Залатога Купідона»?**

— Яны могуць выявіцца акурат падчас урачыстасці. Але на прыкладзе мінулых гадоў было заўважна, што ў сцэнарый свята ўваходзіла вельмі шмат элементаў сцэнічнага мастацтва: песень, танцаў і г. д. У Дзень беларускага пісьменства ўсё ж такі хацелася б надаваць больш увагі ўшанаванню літаратараў і тых, хто мае непасрэднае дачыненне да выпуску і распаўсюджвання кніг. Сёлета гэта павінна атрымацца. У першы дзень мерапрыемства мяркуецца канцэрт, розныя імпрэзы, а ў другі — цырымонія ўзнагароджання пераможцаў конкурсу.

**Гутарыла Яна ЯВІЧ**

# На хвалях літаратуры

Пра перспектывы, пра сённяшнія справы айчынных творцаў, а таксама пра тое, як у краіне адзначаецца 80-годдзе Саюза пісьменнікаў Беларусі, распавёў на хвалях міжнароднага радыё «Беларусь» старшыня СПБ Мікалай Чаргінец. Інтэрв'ю з ім прагучала не толькі па-руску і па-беларуску, але і ў перакладзе на англійскую, нямецкую і польскую мовы.

Адзінае ў Беларусі міжнароднае радыё, якім кіруе пісьменнік і публіцыст Навум Гальпяровіч, расказвае пра нашу краіну для замежнага слухача на васьмі мовах. Сярод іншых тэм пачэснае месца займае літаратура. Толькі ў апошні час тут прагучалі выступленні старшыні мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхася Пазнякова, пісьменнікаў Віктара Праўдзіна, Уладзіміра Скарынкіна, Уладзіміра Ліпскага, Зіновія Прыгодзіча, Анатоля Бутэвіча, маладой паэтэсы Ганны Чумаковай. Сярод пастаянных вядучых — творцы Алесь Бадак і Таццяна Сівец.

Акрамя гэтага, на хвалях радыё распавядаецца пра класікаў беларускай літаратуры, гучаць творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Івана Мележа ды сучасных аўтараў.

**Вячаслаў ЛАКЦЮШЫН,**
**дырэктар дырэкцыі праграм на замежных мовах міжнароднага радыё «Беларусь»**

*Пункціром*

✔ У мэтах узнаўлення гістарычных і стварэння новых афіцыйных геральдычных знакаў некаторых адміністрацыйна-тэрытарыяльных і тэрытарыяльных адзінак Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб заснаванні іх гербаў. Гэта пасёлкі і аграгарадкі Віцебскай, Гродзенскай абласцей, у ліку якіх — вядомыя Жыровічы Слонімскага раёна. Указам таксама зацверджаны палажэнні аб гербах.

✔ Нацыянальны гістарычны музей Беларусі і Марыйскі велаяцкі гісторыка-краязнаўчы музей Туркменістана падпісалі мемарандум аб супрацоўніцтве. У фондах Марыйскага музея налічваецца больш як сорак тысяч экспанатаў, сярод якіх — старадаўнія рукапісы, дакументы па гісторыі Марыйскага велаята. Мемарандум створыць умовы для абмену выстаўкамі, правядзення стажыровак.

✔ Поўнаметражны ігравы фільм «Бабу» кінакампаніі New Wave Production і Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» уганараваны спецыяльным дыпломам «За мастацкае адлюстраванне міжнацыянальных адносін» усерасійскага фестывалю «Шукшынскія дні на Алтаі». У кінастужцы здымаліся вядучыя беларускія і азербайджанскія акцёры.

✔ Этнічная спявачка, кампазітар, выкладчык Ірэна Катвіцкая прадставіць Беларусь на VIII Міжнародным фестывалі «Збіраем сяброў», які пачынаецца заўтра ў Маскве. Арганізатарамі фэсту выступілі Маскоўская дзяржаўная кансерваторыя імя П. І. Чайкоўскага і навукова-творчы цэнтр «Музычныя культуры свету». Удзельнікамі стануць артысты з Вялікабрытаніі, Ізраіля, Ірана, Кітая, Італіі, ЗША, Японіі, Расіі ды іншых краін.

✔ Знакаміты гомельскі парк над Сожам, створаны ў сярэдзіне XIX стагоддзя вакол палаца ў сядзібе князёў Паскевічаў, з сённяшняга дня мяняе сваю назву. Любімае месца адпачынку гамяльчан, якое больш як 80 гадоў называлася Паркам культуры і адпачынку імя А. В. Луначарскага, стала называцца Паркам Гомельскага палацава-паркавага ансамбля. Такое рашэнне прынята Міністэрствам прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя Беларусі.

✔ Каля 7 тысяч экспанатаў X — XVII стст. знайшлі археолагі падчас раскопак на Замкавай гары ў Мсціславе. Гэта адна з найбагацейшых і ўнікальных калекцый рарытэтаў, выяўленых за апошні час у Беларусі: цэлыя комплексы матэрыялаў розных эпох, якія дазваляюць аднавіць рэаліі жыцця ўсходніх славян у X — XVII стст. Напрыклад, пра пісьменнасць нашых продкаў сведчыць берасцяная грамата XII ст. (трэцяя ў Беларусі) з пасланнем дзіцяці, а пра багацце жыхароў старажытнага Мсціслава — каштоўныя ўпрыгожванні з Візантыі, Сірыі, Каўказа.

✔ Гераічным і трагічным старонкам вайны, мужнасці беларускага народа ў барацьбе за незалежнасць Бацькаўшчыны прысвечана выстаўка «Навекі ў памяці...» у Полацкім музеі беларускага кнігадрукавання. У экспазіцыі прадстаўлены навукова-папулярныя і літаратурна-мастацкія выданні пра Вялікую Айчынную: кнігі Васіля Быкава, рукапісная партызанская газета, лістоўкі падпольшчыкаў, графічныя лісты мастака, удзельніка вайны І. Сталярова ды інш.

# Дзеля памяці

Сустрэча вучоных і грамадскіх дзеячаў краіны, прымеркаваная да 100-годдзя Першай сусветнай вайны, адбылася ў Прэс-цэнтры Дома прэсы. Удзельнікі дзяліліся меркаваннямі пра мерапрыемствы, якія плануецца правесці ў сувязі з гэтай датай.

Цягам апошняга дзесяцігоддзя на праблематыцы Першай сусветнай сканцэнтравана пільная ўвага айчынных даследчыкаў. У выдавецтве «Беларуская навука» запланаваны выхад манаграфіі, прысвечанай гэтым падзеям, паведаміў дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук Вячаслаў Даніловіч. Навукоўцы спрыяюць і стварэнню ў Смаргоні мемарыяла ахвярам вайны, які мяркуецца адкрыць у 2018-м. А сёння там адбудуцца мітынг-рэквіем, памінальны малебен і гістарычная рэканструкцыя. Да ўрачыстай даты запланаваны і шэраг «круглых сталоў» ды канферэнцый з удзелам як айчынных, так і замежных навукоўцаў.

Цікавасць да ваенных падзей расце і ў тураператараў, экскурсаводаў ды турыстаў. Пра гэта распавяла галоўны спецыяліст Дэпартамента па турызме Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Марына Масташова. Распрацаваны шматлікія ваенна-гістарычныя экскурсіі, як прыкладам, «Дарогамі Першай сусветнай» (2008). Іх тэматыка пашыраецца.

З мая па ліпень у Нацыянальным гістарычным музеі праходзіла выстаўка «Беларусь у Першай сусветнай вайне», а сёння экспазіцыя адкрыецца ў Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеі. Як адзначыла начальнік упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры краіны Наталля Задзяркоўская, актыўны ўдзел ва ўрачыстых мерапрыемствах возьмуць і бібліятэкі.

У навучальных установах адбыліся тэматычныя конкурсы, акцыі, урокі-рэквіемы, актывізавана дзейнасць краязнаўчых музеяў. Паводле начальніка ўпраўлення мастацтва, культурна-асветніцкіх устаноў, народнай творчасці і навучальных устаноў Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама Алены Клімовіч, у школах вобласці праведзены конкурс сачыненняў, краязнаўчыя гасцёўні. Прэс-сакратар Міністэрства адукацыі Юлія Ваніна зазначыла, што пэўныя праграмы існуюць і ў летніх аздараўленчых лагерах.

Маштабная міжнародная канферэнцыя, прысвечаная ролі Першай сусветнай вайны ў еўрапейскай гісторыі, пройдзе ў Вілейцы. На гэтым акцэнтавалі ўвагу прысутных намеснік дэкана гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Андрэй Прохараў і намеснік старшыні Вілейскага райвыканкама Святлана Дзяруга. Пра адпаведныя мерапрыемствы ў Мядзеле распавяла намеснік старшыні Мядзельскага райвыканкама Іна Барыева. Пашпартызацыю воінскіх захаванняў праводзіць упраўленне Узброеных Сіл па ўвекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў. Намеснік начальніка ўпраўлення Леанід Мяцеліца заўважыў, што праца па выяўленні знаходак Першай сусветнай працягваецца.

Цешыць, што ў нашай краіне багата людзей, неабыякавых да гістарычнай памяці і гатовых рупіцца пра захаванне помнікаў Першай сусветнай вайны.

**Дана ХОДНІЧ**

*Тэле-ЛіМ*

# Ключы да «Вялікай вайны»

На тэлеканале «Беларусь 1» з 28 па 31 ліпеня трансліраваўся хранікальна-дакументальны цыкл «Вялікая вайна». Паказу фільма папярэднічала прэс-канферэнцыя, якая адбылася ў Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь.

З журналістамі сустрэліся намеснік галоўнага дырэктара галоўнай дырэкцыі тэлеканала «Беларусь 1» Сяргей Шышко, аўтар сцэнарыя і кіраўнік праекта Ксенія Луцкіна, а таксама сябры ваенна-гістарычнага клуба «Грэнадзёр». Апошнія актыўна спрычыніліся да гістарычнай рэканструкцыі, элементы якой змяшчае фільм.

Хоць Першую сусветную і называюць «Вялікай забытай вайной», гэта адна з найважнейшых гістарычных вех, зазначыла гісторык па адукацыі К. Луцкіна. За рэалізацыю праекта яна ўзялася ў першую чаргу таму, што самой цікава было разгадаць таямніцы падзей вайны, якая, згодна з меркаваннем даследчыцы, з'яўляецца суцэльнай «белай плямай». Самым складаным было ўкласці ваенную гісторыю ў чатыры 39-хвілінныя серыі, прызналася Ксенія. На стварэнне ўсёй стужкі спатрэбілася амаль два гады. Здымкі праходзілі па ўсёй Беларусі, да іх прыцягвалі нават дайвераў. Паводле слоў Сяргея Шышко, для тэлеканала гэта першы праект такога маштабу.

Сведак падзей, якія адбываліся 100 гадоў таму, ужо няма, затое жывуць іх нашчадкі. Першую сусветную яны ўспрымаюць так, быццам удзельнічалі ў ёй самі. Прадзед Сяргея Шышко, напрыклад, быў ваеннапалонным. І гэтыя прыклад далёка не адзінкавы.

**Яна ЯВІЧ**



Фота з сайта catholic.by

# Моладзь верыць

Удзельнікі сустрэчы.

**На працягу трох дзён у Івянцы праходзіла традацыйная маліtоўная сустрэча моладзі. Сюды з'ехалася каля 380 чалавек, каб разам памаліцца ў касцёле Святога Антонія Падуанскага, паслухаць паважаных людзей, спецыяльна запрошаных айцом Лехам Баханкам, пробашчам тутэйшай парафіі.**

Сустрэчы папярэднічала пяцідзённая «Музычная майстэрня». Вялі яе госці з Польшчы Ян Паспяшальскі і Зоф'я Сакалоўская. Канцэрт майстэрні адбыўся ўвечары першага дня. На другі ўдзельнікаў чакалі захапляльныя канферэнцыі са знакамітай польскай артысткай і рэжысёрам Патрыцыяй Хурляк і Мацеем Бадасінськім.

Таксама хлопцы і дзяўчаты ўдзельнічалі ў «круглых сталах», прысвечаных актуальным пытанням моладзі: сям'я, каханне, стасункі...

Падчас майстар-класа па фатаграфіі супрацоўніца каталіцкага інфармацыйнага партала Аляксандра Шчыглінская вучыла асновам падрыхтоўкі фотарэпартажу, таму, як паказваць прыгажосць людзей, іх учынкаў і пачуццяў.

Падобныя імпрэзы гавораць пра тое, што ў нашай краіне шмат высокадухоўнай моладзі.

**Аксана ЮЧКАВІЧ**

# Шоўк, дутар і папаха

**Прырода гэтай краіны здзіўляе сваёй разнастайнасцю. «Чорныя» пяскі Каракумаў і бязмежныя пашы ў асяроддзі рэліктавых лясоў. Празрыстыя воды ракі Аму-Дар'і, а каля падножжа аднаго з горных хрыбтоў, у пячоры, — цёплае возера Коу-Ата, дзе можна купацца круглы год...**

Мясцовыя жанчыны ствараюць майстэрскія дываны ручной работы, якія пазнаюць ва ўсім свеце. Гэта — Туркменістан, край, вядомы сваёй прыгажосцю і культурай. Пераліва шоўку на вопратцы, яркія цюбецейкі, ваўнячыя папахі і меладычныя дутары — вось такую экзотыку пашчасціла ўбачыць жыхарам Беларусі. Дні культуры Туркменістана ў нас прайшлі з 23 па 25 ліпеня. З сяброўскай мусульманскай краіны ў нашу сталіцу прыехала каля 60 дзеячаў розных кірункаў мастацтва: музыкі, танца, тэатра, а яшчэ — спецыялісты па этнаграфіі.

Урачыстая цырымонія адкрыцця Дзён культуры Туркменістана адбылася ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. У канцэрце ўзялі ўдзел салісты аркестра народных інструментаў, эстрадныя выканаўцы, артысты музычна-танцавальных і фальклорных калектываў. Акрамя знаёмых славянам гітары, барабанаў, фартэпіяна, гледачы пачулі гучанне дутара — старадаўняга струннага інструмента туркменаў, а таксама ўсходняй скрыпкі — гіджака. Музыкі, убраныя ў нацыянальныя халаты і папахі з барановага футра, надавалі прадстаўленню незабыўны каларыт.

Адкрываючы мерапрыемства ў Белдзяржфілармоніі, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Туркменістана ў Беларусі Мурад Язбердзіеў падкрэсліў, што туркменскі і беларускі народы валодаюць багатымі культурнымі традыцыямі, сфарміраванымі ў тым ліку сумеснай гісторыяй. Паводле яго слоў, знаёмства з нацыянальнай спадчынай народаў спрыяе яшчэ большаму збліжэнню паміж краінамі, іх узаемнаму абагачэнню. Кіраўнікі нашых дзяржаў па выніках узаемных візітаў стала адзначаюць важнасць развіцця кантактаў у сферы культуры і мастацтва, пры гэтым асаблівую значнасць надаюць правядзенню Дзён культуры», — падкрэсліў Мурад Язбердзіеў. Дыпламат зазначыў, што ў Туркменістане, як і ў Беларусі, развіццё культуры з'яўляецца адным з дзяржаўных прыярытэтаў.

Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў, у сваю чаргу, звярнуў увагу на значнасць Дзён культуры ў перыяд святкавання да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Вельмі важна, калі народы звязваюць не толькі рэаліі сучаснасці, але і агульная памяць.

Дні культуры Туркменістана падоўжыліся 24 ліпеня ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі, дзе была адкрыта выстаўка этнаграфічных экспанатаў, прывезеных з фондаў Марыйскага велаяцкага гісторыка-краязнаўчага музея. Калекцыя ўключыла эксклюзіўныя ювелірныя вырабы туркменскіх майстроў, «узрост» часткі з якіх перавышае сотню гадоў. На стэндах зіхацелі велічныя і ў той жа час вытанчаныя жаночыя нацыянальныя ўпрыгожванні — брошкі, бранзалеты, падвескі і завушніцы з срэбра, мельхіёру, каляровага шкла, аздобленыя сердалікам і мудрагелістымі ўзорамі. На экспазіцыі былі прадстаўлены таксама абрусы, невялікія дываны, дарожныя мяшкі, нацыянальныя касцюмы, сярод якіх асаблівую ўвагу прыцягвала доўгая шаўковая сукенка з вышыўкай і, зразумела ж, цюбецейкі самых розных адценняў, але пераважна чырвонага колеру. Дарэчы, ён у туркменаў любімы, таму што сімвалізуе жыццядзейныя сілы прыроды і, нібы абярэг альбо талісман, дорыць здароўе і дабрабыт. Нацыянальныя традыцыі ў вялікай пашане туркменскага народа і сёння, што сведчыць аб клапатлівым і паважлівым стаўленні да продкаў.

Дні культуры Туркменістана ў Беларусі надалі новы імпульс развіццю двухбаковых адносін краін, прычым не толькі ў галіне культуры, але і іншых сфер жыцця. Завяршылася мерапрыемства з удзелам замежных гасцей 25 ліпеня ў Бабруйску, у Магілёўскім абласным тэатры драмы і камедыі імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча. Чакаецца, што ў 2015 годзе ўжо ў Туркменістане ў чарговы раз пройдуць Дні культуры нашай краіны, праграма якіх выпрацоўваецца.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Форум нераўнадушных

Напрыканцы верасня ў Гомелі адбудзецца адна з галоўных падзей у культурным жыцці Беларусі — ІІ Нацыянальны музейны форум. Мерапрыемства праходзіць раз на два гады.

Тэма сёлетняга — «Музей і грамадства: ад камунікацыі да ўзаемадзеяння» — адкрывае патэнцыял унікальных устаноў, дзе даследуюць, захоўваюць і папулярызуюць гісторыка-культурную спадчыну — калектыўную памяць многіх пакаленняў. Форум — месца, дзе сустракаюцца і прафесіяналы, і тыя, каму неабыякавы паняцці «спадчына», «продкі», «культурныя каштоўнасці», каб у адкрытай дыскусіі падзяліцца назапашанымі ведамі.

Грандыёзнае мерапрыемства будзе праходзіць на пляцоўцы Гомельскага лёгкаатлетычнага манежа, дзе свае экспазіцыі размесцяць 100 айчынных музеяў. Удзельнікі і наведвальнікі пазнаёмяцца з цікавымі дзелавымі, культурнымі і дэманстрацыйнымі праграмамі. Прадстаўленыя праекты, публікацыі накіраваны на развіццё духоўнага патэнцыялу беларусаў, фарміраванне нацыянальнай ідэнтычнасці і захаванне культурнай памяці.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Увага — адукацыі

Экспертны «круглы стол» на тэму «Гарманізацыя прафесійных і адукацыйных стандартаў у сістэме вышэйшай адукацыі Беларусі: праблемы і перспектывы» адбыўся ў сталічнай гасцініцы «Crown Plaza» ў межах праекта «Грамадскі дыялог». У ім прымалі ўдзел прадстаўнікі Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва, Грамадскага Балонскага камітэта (яго мэта — распрацоўка дарожнай карты інтэграцыі беларускай вышэйшай адукацыі ў Еўрапейскую прастору вышэйшай адукацыі), вышэйшых навучальных устаноў, студэнцкіх арганізацый.

На мерапрыемстве абмеркаваны праблемы прафесійных стандартаў у паляпшэнні якасці вышэйшай адукацыі ў нашай краіне, шляхі павышэння ролі наймальніка ва ўмацаванні сувязі вышэйшай адукацыі і рынку працы. Асобная ўвага была нададзена пытанню фарміравання сектаральных саветаў.

Была згадана пастанова Савета Міністраў ад 17 студзеня гэтага года «Аб некаторых пытаннях развіцця нацыянальнай сістэмы кваліфікацый Рэспублікі Беларусь», паводле якой Міністэрства працы да канца года мусіць апрацаваць новую сістэму кваліфікацый у некаторых галінах эканомікі з дапамогай сектаральных саветаў.

Падчас «круглага стала» выступілі з дакладамі старшыня прэзідыума Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Уладзімір Карагін, які распавёў пра новыя правілы вядзення прадпрымальніцкай дзейнасці з 1 ліпеня, і эксперт Грамадскага Балонскага камітэта, кандыдат медыцынскіх навук Вольга Крыжаноўская, якая зрабіла акцэнт на сферы сусветных адукацыйных і прафесійных стандартаў.

**Яна ЯВІЧ**



# Два юбілеі

Персанальная выстаўка Генадзя Шутава, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь, адкрылася ў мастацкай галерэі «Беларт».

Экспазіцыя пад назвай «Чалавек. Прадмет. Час», арганізаваная Беларускім саюзам мастакоў, прысвечана 75-годдзю з дня нараджэння і 55-годдзю творчай дзейнасці аўтара. У прывітальным слове намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Леанід Хобатаў зазначыў, што Генадзь Фёдаравіч — адзін з выбітных творцаў нашай краіны, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Такія асобы ствараюць гісторыю айчыннага мастацтва. Да віншаванняў далучылася старшыня Віцебскага абласнога саюза мастакоў Святлана Баранкоўская, якая падкрэсліла: на работы Г. Шутава хочацца глядзець зaўсёды.

Шмат цёплых слоў пачуў у свой адрас юбіляр. Усе выступоўцы сыходзіліся ў адным: Генадзь Шутаў — мастак унікальны.

**Віялета ВАШЧЫЛІНА**



Мікола ШАБОВІЧ

## Прыходзьце ў госці да Купалы

Адкіньце прэч журбы навалу,
Душы ляноцце.
Прыходзьце ў госці да Купалы,
Часцей прыходзьце.

Ён вас усмешкай прывітае
І прыгалубіць.
Гасцей — паэтаў і ратаяў —
Купала любіць.

Паспавядайцеся Купалу
Пра тое-гэта,
Што з новым годам больш ці стала
Сяброў паэта.

І, можа, вера акрыяе,
Што ўсё ж не згінем,
Пакуль нас Геній акрыляе
Малітвай-гімнам…

Сягоння ж нас не так і мала
У дзён хаўрусе…
Прыходзьце ў госці да Купалы,
Да Беларусі.

***

Так хочацца быць патрэбным
Не толькі сябрам — радзіме.
Адкінуць з душы атрэб'е
І славіць куточак дзіўны.

Той кут, што салоўка гожыць
У спевах сваіх дзівосных,
Дзе многа гадкоў варожыць
Зязюля ў світанак росны.

Той кут, дзе гады-гадочкі
Бруіліся так шчасліва
Пад яблыняй у садочку,
Пад грушаю ці пад слівай.

Дзе верш нарадзіўся першы,
Дзе мары луналі ўзвышша,
Дзе сцежкай вяртлявай пешшу
У школу хадзіў увішна…

Ці знойдзецца слоў найдзіўных,
Каб шчыра табе прамовіць:
«Бадзенеўскі кут, радзіма —
Малітва мая і споведзь!»?

***

Адгучалі веснія акорды,
Лета дорыць свята навальніц.
Ад вятроў хістаюцца білборды
І скрыгочуць крылы аканіц.

Зноў машыны плаваюць, як лодкі,
Бы Няміга выйшла з берагоў.
Шлях дадому — доўгі і кароткі:
Дзе метро, дзе пехам, дзе бягом…

Вось такая сёння навальніца,
Ды і ўчора гэткая ж была.
І ў чаканні сцялася сталіца:
Новая ўжо хмара прыплыла.

***

Хтосьці ў дзверы стукнуў нечакана.
Хто ж такі — мой неспадзеўны госць?
Верыцца, што, можа быць, не старасць,
Дый вядома, што не маладосць.

Адчыніць ці, можа, памарудзіць?
Хай шчэ стукне раз ці, лепей, тры.
Стук адзін не кожнага разбудзіць…
Ды чамусьці ціха на двары.

За акном — абвеснёнае ранне.
Дзе ж мой госць? Пайшоў, не пагасціў…
Ну а раптам даўняе каханне?
Я ж яго і ў хату не ўпусціў…

***

Я спаткаю цябе на вакзале,
Толькі ты прыязджай хутчэй.
І, нібыта ў таемнай зале,
Да тваіх прыпаду плячэй.

Буду піць з тваіх воч патолю
І хмялець ад твайго цяпла,
Не жадаючы лепшай долі, —
Толькі б ты у мяне была,

І тады, як душа спявае
І радок узлятае ўвыш,
І тады, як журба ліхая
Працінае, нібы скавыш…



Васіль ДЭБІШ

## Жвірынкі

***

І камень стары ўвесну
адчувае сябе
гарой.

***

Якая прыгожая няволя:
краскі ў гаршках
цвітуць.

***

У жабрацкай шапцы —
сонцы:
медзякі зіхцяць.

***

Нясу на плячах
адзіноты
поўню.

***

Лёгкае
воблака
сноў.

***

Захінуўся
ў роспач
вецер.

***

Сасмяглыя зоркі
п'юць
рэчку.

***

Калі аплакваем іншых —
ці не аплакваем мы
саміх сябе?

***

Стаяла над горадам
і махала мне хусцінай
адзінокая
хмарка.

***

Пагасла свечка —
начны
матылёк.

***

Расхрыстаны
грудзі
нябёсаў.

***

Пасеяла маці
на градках
сляды.

***

Цячэ над горадам
рака —
неба.

***

Трэснула спелым
арэхам —
поўня.

***

Спёка ніпачым.
Схаваўшыся ў кветкі бульбы,
спраўляюць вяселлі
каларадскія жукі.

***

У буслянцы
пасялілася
надзея.

***

Крокі…крокі…
Ідуць
цені.

***

Прагну глыбока
нырнуць —
у неба.

***

Іду на спатканне з каханнем.
Але за дажджом
ці пазнаю яго?

***

Туман затаіўся ў лагчыне,
са смакам п'е
сырадой.



Наталля АЗАРАНКА

## Аркадзю Куляшову, земляку, паэту-волату

Світанак лютаўскі
над Бесяддзю ўзышоў
І заблішчаць снягі,
як дыяменты…
На белы свет з'явіўся Куляшоў
На Касцюкоўшчыне, у вёсцы
непрыкметнай!

Ў той дзень прыгожы
ліст календара,
Ўжо соты раз зрывае час,
як з дрэва…
Віншуй Аркадзя, Белая зямля!..
Брыгады сцягам неба ружавее.

Перапраналіся ўсе
людзі ў шынялі,
Ішлі на бой пад музыку гарматаў.
Абараніўшы шчасце на Зямлі,
Паэзія яго плыла набатам.

З жытнёвых ніў ён набіраўся сіл,
А прыгажосць душы
набыў у кветак.
Зямлі спявае славу небасхіл
За мужнага,
за волата-паэта…

Такую моц пяра падараваць
І талентам паіць
з крыніц найлепшых!
Рассыпаў над усёй зямлёй Аркадзь
Паэмаў аксаміты,
промні вершаў.

У юбілей стагоддзя песняра
Яго народ вітае
з сілай новай.
З вялікаю павагай да пяра,
З любоўю
да Аркадзя Куляшова!



Фота Наталлі Асмола



**Любая вайна — вялікае гора для асобных людзей і цэлых народаў, бо часцей за ўсё яны ваююць, забіваюць адзін аднаго па волі сваіх уладаў, для іх карысці. Такой кровапралітнай для рускіх і немцаў і многіх іншых нацый была Першая сусветная вайна. За цара-бацюшку ваявалі ўсе мае дзядулі. З мамінага боку — гэта Паўлюк Пятровіч Парфяновіч і яго браты, а з бацькавай радні — Макар і Іллюк. Дзядуля Макар ваяваў у пятым Туркестанскім палку, разам з вядомым Сямёнам Будзённым. Быў у званні унтэр-афіцэра, узнагароджаны медалём Святога Георгія. Будзённы ж заслужыў аж чатыры такія медалі і стаў іх поўным кавалерам. У грамадзянскую вайну Будзённы вырас да палкаводца, а мой дзядуля камандаваў невялікім аддзяленнем. У канцы ліхалецця цяжка захварэў на менінгіт і цудам выжыў. У гэты час наша вёска Янкі, што ў цяперашнім Докшыцкім раёне, як і частка Заходняй Беларусі, апынулася пад Польшчай. Але недзе ў 1922 годзе савецкія ўлады адпусцілі дамоў. Добра, што мяжа паміж Польшчай праходзіла даволі блізка ад нашых Янкоў. Дзядуля Іллюк заставаўся на савецкай тэрыторыі, жыў у Плешчаніцах, працаваў урачом. Памёр у трыццатыя гады. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, два яго сыны — Віця і Пеця — служылі ў Чырвонай Арміі і загінулі пры абароне Ленінграда. Меншыя дзеці — Міша і Вера — былі тады яшчэ школьнікамі, потым дапамагалі падпольшчыкам і партызанам. Пасля вайны Вера вывучылася на медыка, Міша стаў журналістам, быў рэдактарам раённых газет. Хто бывае ў Плешчаніцах, то на доме, што на вуліцы Фрунзэ, можа пабачыць мемарыяльную дошку, якая сведчыць: тут у мінулую вайну знаходзіўся прытулак для мясцовых падпольшчыкаў. У Першай сусветнай вайне ваяваў таксама мой дзядуля Сцяпан, быў паранены, але выжыў, хоць кульгаў. І мама, і мае цёткі шмат згадвалі пра той грозны час, і з іхніх слоў я і напісаў гэтае амаль дакументальнае апавяданне.**

Іван СТАДОЛЬНІК

*Светлай памяці маіх дзядуль*
*Паўлюка і Сцяпана*

# Паўлюк-Паўлюс

## *Апавяданне*

Адусюль перасталі страляць: і з таго, і з гэтага боку — нямецкага і рускага. Паўлюка Парфяновіча нясцерпна мучыла патрэба хоць крышачку прыўстаць у гэтым да ванітаў абрыдлым, сырым і золкім акопе. Устаць, прыўзняцца хоць на імгненне, каб на тое ж імгненне выпрастаць змярцвелыя, зведзеныя нястрымнай сутаргай ногі. Але гэтага, хоць памры, не зробіш без каманды, ды і з таго боку ў любы момант могуць стрэліць і забіць.

Паўлюк добра ведае, што гэтая цішыня, нядоўгая і здрадлівая, можа ўраз ператварыцца ў жудаснае грымучае пекла. Салдат толькі крышачку паварушыў знямелымі каленямі, прадчуваючы хуткую каманду «плі!», перазарадзіў вінтоўку і перахрысціўся, папрасіўшы Божачку, каб засцярог чалавечка ад ягонай, Паўлюковай, кулі.

Парфяновіч бачыў, што гэтак жа, як і ён, украдкай перахрысціўся і ягоны сусед па акопе, аднавясковец Сцяпан. Ён горбіцца ў акопе, сядзіць з азызлым шэрым вусатым тварам і, пэўна, таксама думае пра сваю радню: як яны там дома, як ім без яго жывецца?

У Сцяпана чацвёра дзяцей — тры сыны і дачка, у Паўлюка — пяцёра: два сыны — Іван і Міхал, дочкі — Ганна, Волька і Наталля. Паўлюка сама больш трывожыць, хвалюе і маркоціць Наталля. Ёй жа ўсяго толькі трэці годзік пайшоў.

Не паспеў Паўлюк перадумаць пра ўсё набалелае, як прагучала каманда:

— Прыгатовіцца!

Паўлюк яшчэ раз перахрысціўся і, сцяўшыся ў камяк, намацаў пальцам халодны, аж пякучы, курок вінтоўкі, прашаптаў:

— Божачка, зрабі так, каб мая куля мінула чалавечка…

Толькі паспеў прашаптаць, як тут жа прагучала:

— Плі!

Паўлюк унурыў галаву ў пясчаны бруствер акопчыка, пачаў раз-пораз страляць, і паспешна, як усё роўна стараўся перад некім выслужыцца, нічога не бачачы перад сабой, не чуючы, як навокал траскацяць вінтоўкі і недзе збоку дудукаюць кулямеры, а далёка ззаду бубухаюць гарматы. І раптам праз гэты пякельны грукат да яго даляцеў неймаверны ўскрык чалавека. Паўлюка ўраз кальнула ў сэрца, сцяло дых: няўжо Сцяпан?!

Не, гэта быў ускрык не Сцяпанаў. Паўлюк краем вока ўбачыў, што Сцяпан, унурыўшы галаву, схаваўшыся за грудок акопнай зямлі, раз-пораз страляе. Гэта ўскрыкнуў акопнік злева, расійскі хлопец Дзімітра. Ён ляжаў не ніцма, а павярнуўшыся на бок, з залітым крывёю тварам і крыху разяўленым ротам і вышчаранымі зубамі.

У Паўлюка затрымцела ў сярэдзіне, і ён, яшчэ глыбей уціснуўшыся ў акопчык, увабраў галаву ў плечы, не адчуваючы ні самога сябе ні шуму навокал. Над галавой свішчуць, скуголяць кулі, і ён пачаў страляць часцей і часцей.

…Страляніна як усчалася агулам, так агулам і перастала. Ужо каторы дзень ніхто ні на кога не нападае. Не ходзяць у атаку ні рускія, ні немцы, толькі страляюць адзін у аднаго здаля — з акопаў і траншэй.

Паўлюк ледзь не млеў ад расцёклага болю па ўсім целе і толькі ўздрыгваў ад золкага холаду, сам сябе не помнячы. Варухнуўся, крыху прыўзняўся, каб сарыентавацца, і ўмомант над галавой прасвістала, праскуголіла куля. «Мусіць, і там у немцаў ёсць такі ж наўмысна-няўдалы цалок, як і я», — зноў унурыўшы галаву ў выратавальную горку акопнай зямлі, чамусьці спакойна думаў Парфяновіч, а мог бы лёгка забіць, застрэліць, але тут жа ўздыхнуў: — За што адзін аднаго забіваем, што мы маем з гэтага?»

І неспадзеўкі Паўлюка пачалі апаноўваць нейкія незразумелыя і дзівакаватыя думкі. Але іх тут жа адпрэчыў рэзкі, як грамавы, крык-загад штабс-капітана Іванчанкі:

— У атаку! Уперад! За мной!

Паўлюк у імгненне прымкнуў штык да рулі вінтоўкі, загнаў у патроннік патрон і, як выкінуты шалёнай віхурай, нібы сляпы, без памяці пабег наперад з ацалелымі таварышамі, пераскокваючы цераз забітых і параненых.

Многія раз'юшана крычалі: «Ура!» Толькі Паўлюк бег моўчкі, без азартнага ваяўнічага воклічу, бег ледзь не апошнім. Ён стараўся з усіх сіл, але адзін за адным абганялі яго таварышы. Паўлюк не заўважаў, як многія, нібы падкошаныя, валяцца на зямлю. І тут Парфяновіч адчуў, што яго пачынае хістаць з боку ў бок, цямнее ўваччу і горачагорача робіцца ў правай назе.

Раптам як бы нейкая шалёная сіла штурханула яго ў нябачную прорву, у нікуды. Усё навокал знікла.

… Ачуўся ад балючага і трывожнага торгання ў правай назе. Глянуўшы на яе, убачыў, што ўся штаніна ў крыві, вышэй калена разануў пякучы боль. «Усё: паранены, — не з трывогай, а як бы з палёгкай падумаў Паўлюк, і тут жа спахапіўся: — Трэба хутчэй перавязаць рану, пакуль яшчэ пры памяці». Ліхаманкава выцягнуў з катомкі пакет, а з яго — бінты і слабеючымі рукамі штосілы туга перавязаў нагу ў тым месцы, дзе сама больш сачылася, ледзь не цурчэла гарачая кроў. Перад боем усім салдатам давалі пакеты з бінтамі і нейкімі лекамі. І вось як гэтыя бінты зараз спатрэбіліся.

Цела пачало напаўняцца хоць і кволенькай, але адчувальнай сілай. Перад вачыма стаяла нейкая зыбучая шэрань і толькі ўперадзе чулася далёкая страляніна. З правага боку і крыху ззаду ад сябе Паўлюк згледзеў купку маладых елачак, іх, як бег сюды, ніколькі не заўважаў, як не бачыў нічога і нікога навокал. Вырашыў на ўсякі выпадак схавацца ў гэтым ельнічку: мала што яшчэ можа быць. Хакаючы, ледзь стрымліваючы адчайны крык ад пякучага болю ў назе, некалькі разоў намагаючыся ўстаць і кожны раз правальваючыся ў беспрытомнасць, ён у рэшце рэшт з вялікімі пакутамі апынуўся на нагах. Адсопшыся, яшчэ мацней абапёрся на вінтоўку як на кавеньку і з неймаверным намаганнем ступіў некалькі крокаў да ельнічку. Калі прыклыпаў, зусім блізка заўважыў, што адна крайняя елачка раптоўна і быццам чымсьці ўстрывожаная заварушылася, далікатна заківала зялёнымі галінкамі-лапкамі, як усё роўна запрашаючы бедака да сябе.

Паўлюк ад убачанага аж аслупянеў, бліскавіцай мільгануў у галаве страх: што такое можа быць? Нечакана і незаўважна наляцеў вялікі вецер, ці ў ельнічку ёсць нехта жывы?

Не паспеўшы ад страху і роспачы датумкаць, што і да чаго, Паўлюк пачуў прыглушаны мужчынскі голас, нібыта загаварыла юная прыгажуня елачка, якая цяпер яшчэ больш увішна замахала лапкамі. І тут жа адтуль выразна данёсся мужчынскі голас:

— Ніхт шыссэн!.. Ніхт шыссэн!.. Іх Паўль Фолькенштэйн.. Іх Паўль Фолькенштэйн!.. Іх ніхт шыссэн! Іх віль плен. Плен. Іх іст плен. Плен! Іх ніхт шыссэн!..

Ад пачутага Паўлюку ўраз сперла дыханне, стала цёмна ўваччу і як бы замерла сэрца, стала млосна-млосна. Не прыходзячы ў сябе, як у бяспамяцтве ледзь не ўсім целам абапершыся на вінтоўку, ён паўстаў нібы ў нейкім інакшым свеце. Не ўбачыў, як праз густэчу елачак прадраўся высокі мажны мужчына ў нямецкай форме і з паднятымі ўгору рукамі.

Паўлюк па-ранейшаму ніяк не мог ачомацца, быў як змярцвелы, з вырачанымі ледзь відушчымі вачамі. Ступіўшы крокі два-тры ад ельніку да Паўлюка, немец спыніўся, яшчэ вышэй выцягнуў над галавой рукі, з трывогай і мальбой у шэрых, як бяздонных, блішчастых вачах скорагаворкай загергетаў:

— Ніхт шыссэн!.. Ніхт шыссэн. Іх Паўль Фолькенштэйн. Крык капут. Крык шайзэ. Крайзер шайзэ. Іх Паўль Фолькенштэйн. Іх арбайтар. Іх ніхт шыссэн.

Азірнуўшыся па баках, немец зноў загергетаў. Але з яшчэ большай трывогай у голасе:

— Крык капут, крык шайзэ. Іх віль плен. Іх Паўль Фолькенштэйн. Іх плен.

…Прабыўшы на вайне паўгода з гакам, Паўлюк разумеў сякія-такія нямецкія словы. Немец просіць, каб ён, Паўлюк, яго не застрэліў, што вайна дрэнь, як і германскі кайзер і што ён, Паўль Фолькенштэйн, здаецца ў палон. Паўлюк крыху прыйшоў у сябе і, не зводзячы вачэй з немца, пакруціў галавой, спакойна, як па-свойску сказаў:

— Не, не бойся, я ня буду цябе шысаць, — і, выцягнуўшы руку перад сабой, дадаў: — Во, ідзі прама, туды ідзі, а я пайду за табой.

Немец запытальна і насцярожана зазыркаў на Паўлюка. Потым, відаць, нейкім чынам упэўніўся, што рускі не мае злога намеру да яго, некалькі разоў міргануў, асцярожна павярнуўся і, не апускаючы рук, паклыпаў туды, куды паказаў рускі салдат. Сам жа Паўлюк, абапіраючыся на вінтоўку, пасунуўся ўслед за немцам, бо адчуў у нагах слабую палёгку. Усяго праз якія метраў сто-дзвесце дзіўнаватую кампанію ў асобе палоннага немца і ягонага канваіра, Паўлюка Парфяновіча, дагналі тры санітарныя падводы з параненымі.

...Побач з загадкавымі пешаходамі падводы па камандзе маладога унтэр-афіцэра адразу ж спыніліся. Спыніўся і канваір з палонным. Саскочыўшы з пярэдняй падводы, унтэр-афіцэр падышоў ледзь не ўшчыльную да Паўлюка і пачаў распытваць прозвішча, як зваць, імя па бацьку, які нумар ягонай вайсковай часці і што гэта за немец, адкуль і куды Паўлюк яго вядзе. Парфяновіч сказаў усё пра сябе, а пра немца патлумачыў, што гэты немец палонны і што сам здаўся ў палон, а цяпер ён, Паўлюк, азадачаны тым, куды дзець і каму здаць нядаўняга ворага. Унтэр супакоіў, сказаў, што ўсё ўладкуе сам.

Паўлюка, якога ўжо амаль зусім пакідалі сілы, два санітары завялі і пасадзілі на трэцюю падводу. Калі ішлі паўз другую падводу, Паўлюк выразна ўбачыў на ёй Сцяпана з попельна-шэрым тварам. Сцяпан ляжаў на возе разам з чатырма параненымі салдатамі. Паўлюк хацеў быў аклікнуць аднавяскоўца, папытацца, як ён маецца, куды яго параніла, але дацяміў, што цяпер Сцяпану не да гаворкі.

Хутка прыехалі ў вёску, дзе ў некалькіх хатах размяшчаўся палявы шпіталь. У адну з хат завялі і Паўлюка.

Назаўтра раніцай у хату-шпіталь, дзе ляжаў Паўлюк Парфяновіч, заявіўся той учарашні знаёмы унтэр-афіцэр. Прывітаўся і, папытаўшыся пра самаадчуванне, унтэр сказаў Паўлюку, што яго, Парфяновіча, будуць прадстаўляць да ўзнагароды ордэнам-медалём Святога Георгія Перамоганосца. Унтэр распытаў Паўлюка пра ўсё, што трэба было, а потым нечакана-негадана пацікавіўся: колькі ён, Паўлюк, мае ўласнай зямлі. Паўлюк сказаў, што зямлі ў яго паўвалокі і што гэта ўсё разам: з ворывам, з лугам, лесам і пашай.

— Это очень хорошо, это очень хорошо, — спагадліва сказаў унтэр-афіцэр і, чамусьці паглядзеўшы некуды ўверх, паўтарыў: — Очень, очень хорошо.

Але ордэна-медаля Святога Георгія Перамоганосца Паўлюк Парфяновіч не атрымаў. Хутка на фронце пачалося братанне салдат, вайна пайшла на спад, а Паўлюка, як франтавіка ў гадах, неўзабаве адправілі дамоў. Потым пайшлі рэвалюцыі, войны, іншыя крывавыя падзеі, і ў жыцці ўсё перамянілася.

…Паўлюк потым ні разу і не ўспомніў пра ордэн-медаль, толькі ўвесь час дзякаваў Богу, што вярнуўся з вайны хоць і паранены, але жывы.

# Сто гадоў перад «новай адказнасцю»

Сто гадоў таму, 28 ліпеня 1914 года, Аўстра-Венгрыя абвясціла вайну Сербіі. Расія ў адказ паведаміла пра мабілізацыю. 1 жніўня Германія абвясціла вайну Расіі, 3-га — Францыі, а 4-га Вялікабрытанія абвясціла вайну Германіі... Так пачалася Першая сусветная вайна — адзін з самых маштабных ваенных канфліктаў у гісторыі чалавецтва.



Малюнак Алесі Ісы

## КАРДЫНАЛЬНЫ ПЕРАЛОМ

Удзел у Першай сусветнай вайне ўзялі 34 дзяржавы. У баявых дзеяннях удзельнічала каля 69 мільёнаў чалавек. Зніклі чатыры векавыя імперыі: Асманская, Расійская, Германская, Аўстрыйская. Была перакроена не толькі палітычная карта Зямлі. Пасля-напалеонаўская эпоха асветы, павольнага эканамічнага развіцця, высакароднасці і памяркоўнага кансерватызму саступіла месца веку вялікіх рэвалюцый і сацыяльных эксперыментаў, хуткаснай урбанізацыі і масавага тэрору, веку новых камунікацый і атамных бамбардзіровак, інфармацыйных войнаў і тэрарызму, імклівага тэхнічнага прагрэсу і экалагічных катастроф.

Па словах Прэзідэнта ЗША Томаса Вудра Вільсана, Першая сусветная вайна «пачалася не па нейкай адной прычыне а па ўсіх прычынах адразу». Яна стала вынікам глабальных супярэчнасцей паміж вядучымі дзяржавамі тагачаснага свету, але не толькі не паспрыяла іх вырашэнню, а, наадварот, паглыбіла іх. Версальскі мір, заключаны 28 чэрвеня 1919 года, стварыў новы геапалітычны расклад у свеце. Аднак адкрытая канфрантацыя паміж дзяржавамі, нацыяналізм, рост ваенна-прамысловага патэнцыялу кожнай з краін вялі да яшчэ больш разбуральных катаклізмаў, а незасвоеныя ўрокі Першай сусветнай — да жудасных масавых ваенных злачынстваў.

## «АТАКА МЕРЦВЯКОЎ»

Расія гэту вайну прайграла. З самага пачатку бальшавікі трактавалі яе як непатрэбную і несправядлівую. Таму Першая сусветная вайна, ледзь не галоўны фактар перабудовы парадкаў у краіне і ў свеце, аказалася напаўзабытай. Рэвалюцыі і наступныя войны зусім адсунулі яе ў цень гістарычнай памяці. Хто не ведае зараз у свеце пра подзвіг абаронцаў Брэсцкай крэпасці ў 41-м? А хто ведае пра абарону крэпасці Асовец на Беласточчыне, якая ў 1914—1915 гадах вытрымала 190 дзён поўнай аблогі і некалькі штурмаў?

...6 жніўня 1915 года немцы разгарнулі супраць Асоўца 30 газавых батарэй. На бастыёны абрынулася дванаццаціметровая хваля хлору. Счарнела і пажухла трава. Зялёная атрута пакрыла металічныя часткі гармат і вінтовак. За хімічнай атакай пачаўся артабстрэл, а потым — масіраваны пяхотны штурм. Раптоўна ў зялёна-шэрым тумане хлору ўзняліся хісткія цені. Шэсцьдзясят ужо смяротна атручаных салдат з трыма афіцэрамі на чале пайшлі ў апошнюю контратаку. На кожнага з іх прыходзілася з сотню праціўнікаў. Працівагазаў тады яшчэ не было. Заматаўшы твары анучамі, байцы ішлі ў поўны рост, кашлялі і захлыналіся крывёю. Збянтэжаныя немцы не прынялі рукапашнага бою, паспешліва рушылі назад. Аднак газ дзейнічаў усё мацней нават тады, калі пакінулі зону забруджання. Загінулі ўсе. Гэты эпізод увайшоў у гісторыю вайны як «атака мерцвякоў». Крэпасць была здадзена пазней. Прычым, адыходзячы, апошнія байцы ўзарвалі бастыёны і рэшткі ўзбраення, а таксама пацыху вывелі ў бяспечнае месца мірнае насельніцтва... Камандзір крэпасці генерал М. Бжазоўскі, які скончыў у юнацтве Полацкую ваенную гімназію, памёр недзе ў Югаславіі невядома калі.

Напаўзабытая вайна мела сваіх герояў. Прыгадайце магілёўскага шляхціца генерал-лейтэнанта У. Май-Маеўскага: не чакаючы справядлівай увагі ўлад, салдаты самі ўзнагародзілі яго Георгіеўскім крыжом «з галінкай». А выхадзец з беднай сялянскай сям'і на Гродзеншчыне М. Жэбрак, які дзякуючы сваім здольнасцям і смеласці даслужыўся ў царскай арміі да палкоўніка! Чырвонаармейцы спалілі яго жывым падчас грамадзянскай. Афіцэрскія званні мелі і М. Гарэцкі, і Я. Серада, і Я. Бялевіч, і К. Езавітаў, і К. Атраховіч... Лёсы іх разышліся.

Успомніце нашы вясковыя хаты гадоў хаця б дваццаць таму. На пачэсным месцы віселі за шклом сямейныя фатаграфіі, і вельмі часта пачыналіся такія насценныя «фотаальбомы» вывамі дзядоў ды прадзедаў у форме царскай арміі. Яны адтуль — са спякотнага лета 1914-га, бо нідзе, акрамя як на фронце, селяніну зрабіць фотаздымак магчымасці не было. На нашай зямлі яшчэ ў 1915 годзе быў пастаўлены і першы ў свеце помнік забітым салдатам, але ў 1950-х гадах яго знеслі.

Не, ні спрачацца, ні супрацьпастаўляць ніхто не збіраецца — у кожнага з нашых продкаў свой лёс і свой гістарычны час. Галоўнае, што некаторыя з палітыкаў ужо ў тыя гады цвяроза ацэньвалі перамены, якія адбываліся пад уздзеяннем ваенна-тэхнічнага прагрэсу. Уінстан Чэрчыль у сувязі з гэтым пісаў: «Чалавецтва ніколі яшчэ не бывала ў падобным становішчы. Не дасягнуўшы дастаткова высокага ўзроўню духоўнага развіцця і не маючы дастаткова мудрага кіраўніцтва, людзі ўпершыню атрымалі ў рукі такія інструменты, з дапамогай якіх яны самі без памашкі могуць знішчыць усё чалавецтва. І гэтае самазнішчэнне стане вынікам усёй слаўнай гісторыі, усёй добрасумленнай працы папярэдніх пакаленняў. І добра зробяць людзі, калі спыняцца і задумаюцца над гэтай сваёй новай адказнасцю».

## МАСТАЦКАЕ АСЭНСАВАННЕ

Вырашальныя бітвы Першай сусветнай вайны адбыліся на тэрыторыі Францыі і Бельгіі. Лінія франтоў на Усходняй Еўропе, адсоўваючыся ў 1915 годзе ад межаў даваеннай Расійскай імперыі, пралегла па Беларусі і надоўга затрымалася тут. Дарэчы, у тым самым годзе Мінск спазнаў і першыя паветраныя бамбардзіроўкі. Мінск, Полацк, Слуцк, з аднаго боку, і Гродна, Баранавічы, Брэст — з процілегла, надоўга сталі прыфрантавымі гарадамі.

Беларуская інтэлігенцыя разумела, што вайна непазбежна выкліча жорсткасць, якая можа выліцца ў сацыяльны катаклізм і масавы тэрор (гэта адбылося ў гады рэвалюцыі), і таму адчула тую самую «новую адказнасць», пра якую пісалі на Захадзе. Праз апошнюю сваю газету, што яшчэ год выходзіла ў час вайны, беларускія пісьменнікі імкнуліся ўкараніць у свядомасці народа маральныя, гуманістычныя пачаткі. У гэтым сэнсе пазіцыя «Нашай нівы» наблізілася да ідэй Р. Ралана, да публіцыстыкі Л. Андрэева і М. Валошына, а не да патрыятычнай рускай лірыкі таго часу (так званай «барабаннай поэзіі»).

Вялікая вайна, як называюць яе на Захадзе, шырока адлюстравалася ў мастацкай літаратуры і кінематографе. Крывавая бойка цывілізаваных народаў Еўропы ўвогуле прыводзіла да адчування абсурднасці свету. Авангардысцкія плыні, якія з'явіліся ў літаратуры і мастацтве яшчэ ў XIX ст., атрымалі своеасаблівы вектар развіцця, што садзейнічала станаўленню мадэрнізму і ўзнікненню першых элементаў постмадэрнізму.

Беларуская літаратура таксама не стаяла ўбаку ад гэтых сусветных тэндэнцый. Так ці інакш Першая сусветная адлюстравалася ў лёсах Я. Купалы і В. Ластоўскага, у творчасці К. Чорнага і М. Лынькова, у «Нашай Ніве», што выходзіла да жніўня 1915 года; шматсэнсавыя згадкі пра вайну сустракаюцца ў В. Быкава, І. Мележа і інш. Але самым значным беларускім творам з'яўляюцца, несумненна, дакументальныя запіскі М. Гарэцкага «На імперыялістычнай вайне», сугучныя не столькі савецкай традыцыі, колькі матывам мастацкага асэнсавання Першай сусветнай у еўрапейскай прозе. Новае выданне гэтай кнігі, прымеркаванае акурат да стагоддзя з дня пачатку баявых дзеянняў, падрыхтавана членам-карэспандэнтам НАН Беларусі М. І. Мушынскім і змяшчае ўступ з літаратуразнаўчым аналізам ваеннай прозы нашага класіка.

## ДА ДЫЯЛОГУ

Нягледзячы на аб'ём і значнасць айчыннага і замежнага літаратурна-мастацкага і дакументальнага матэрыялу, да яго аналізу ў нашай краіне найчасцей звяртаюцца гісторыкі, а не літаратуразнаўцы. Але даследаванні дзеянняў палкоў і дывізій не аднаўляюць саму атмасферу вайны, таму духоўная памяць народа застаецца неяк па-за ўвагай сучаснікаў. Літаратура ж аднаўляе памяць пра Вялікую вайну ў народнай самасвядомасці, прыкладам чаго можна лічыць раман «Расія» У. Гніламёдава. Маштабнае эпічнае асэнсаванне беларускай сучаснасці ў мастацкай прозе здзяйсняецца праз увасабленне тых падзей мінулага, якія могуць стрэліць і часам страляюць у спіну. З іншага боку, аналіз літаратуры пра вайну патрабуе ўжо не вырашэння прыватных пытанняў гісторыка-літаратурнага характару, а комплекснай канцэптуалізацыі фактаў, якія складаюць духоўны капітал нацыі ў крызісныя часы. Першая і Другая сусветныя сапраўды перагукваюцца, як часам блыталіся ў памяці вясковых бабулек «першыя» і «другія» немцы.

Таму актуалізацыя ваеннай праблематыкі можа быць сёння толькі комплекснай і міждысцыплінарнай, уключаць як аналіз палітычных, тэхнічных, ваенных прычын перамог і паражэнняў, побытавых умоў дзеянняў войскаў і жыцця насельніцтва, узнікнення рэвалюцыйных настрояў у арміі і ў тыле і інш., так і мастацкага асэнсавання падзей сучаснікамі і нашчадкамі. Прычым варта ўлічыць, што, папершае, за сотню пасляваенных гадоў варожасць паміж былымі саперніками даўно знікла і пра Першую сусветную можна разважаць без палітычнай заангажаванасці. Па-другое, духоўны вопыт іншых народаў і іншых літаратур глыбока пранік у беларускую культурную прастору. На часавай адлегласці і «Тры таварышы», і «Бывай, зброя», і «Блуканне па пакутах», што ўвасобілі агульную духоўную драму, даўно сталі фактарам беларускага літаратурнага быцця.

Вырашэнню гэтых праблем павінна паспрыяць міжнародная навуковая канферэнцыя «Першая сусветная вайна ў народнай памяці і мастацкім адлюстраванні», якая мае адбыцца 7 — 8 кастрычніка ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Навуковая значнасць канферэнцыі, такім чынам, будзе вымярацца не памятнай датай, а міждысцыплінарным зваротам да агульнанацыянальнага пытання пра месца вайны ў сучаснай культурнай прасторы.

Канферэнцыя распачне цэлы шэраг навуковых мерапрыемстваў і дыялогаў, якія цягам часу прывядуць нас да новага асэнсавання народнага лёсу ў гады рэвалюцыі, грамадзянскай вайны і ў міжваенны перыяд. Задумаемся: у першы раз паветраная цэль была збіта ракетай у баях пад Вердэнам. Аднак за стагоддзе людзі так і не дасягнулі духоўнасці, не зрабілі грунтоўных высноў з мінулага і — няхай нават памылкова — збілі «паветраную цэль» у небе над Данецкам. Нябесная Хатынь для 298 жыццяў.

Мой дзед ваяваў на Першай сусветнай, бацька — на Другой, і мне вельмі не хочацца, каб мой сын ваяваў на Трэцяй. Або каб тэзіс аб «перарастанні вайны імперыялістычнай у вайну грамадзянскую» перакруціўся ў адпаведнасці з магіяй лічбаў у адваротным парадку, і грамадзянская перарасла ў імперыялістычную. Значыць, цяпер і літаратура, і ўсе мы стаім перад той самай адказнасцю, перад якой паставіў нас далёкі 1914 год.

**Сяргей ГАРАНІН,**
**намеснік дырэктара Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па навуковай рабоце, кандыдат філалагічных навук**

# За паўкрокі ад актуальнасці

**У нядаўнім артыкуле, прысвечаным «наіўнаму мастацтву» і эпігонству, згадвалася праблема актуальнасці літаратурнай творчасці. Актуальнасць можна разглядаць у двух аспектах: як мастацкую і жыццёвую. Пачнём з мастацкай актуальнасці — і зноў выкарыстаем умоўны падзел аўтараў на аматараў і прафесіяналаў.**

## МАСТАЦКАЕ

Прафесійны пісьменнік, які вырашае стварыць, напрыклад, гістарычны раман, па-першае, знаёмы з лепшымі ўзорамі гэтага жанру ў айчыннай і сусветнай літаратуры, па-другое, высвятляе, якім чынам ужо пісалі пра абраных ім герояў і гістарычныя падзеі, па-трэцяе, дасведчаны ў сучасных мастацкіх тэхніках і, адпаведна, свабодны ў выбары стылю і наратыўнай стратэгіі. Кампетэнтнасць пісьменніка-аматара па гэтых пунктах не заўсёды высокая. Напрыклад, немагчыма выбіраць з таго, чаго не ведаеш, — таму калі наш аўтар не цікавіцца еўрапейскай прозай XX стагоддзя, гэта значна абмяжоўвае яго выяўленчыя здольнасці. Больш чытаць — галоўная творчая парада Андрэя Федарэнкі!

Згадаем і «Кароткую літаратурную энцыклапедыю»: «Крыніца эпігонства — згасанне і распад тых альбо іншых ідэйна-культурных і мастацкіх канцэпцый, якія перастаюць быць імпульсам да творчасці і робяцца аб'ектам чыста фармальнага і бяздумнага ўзнаўлення». Гэтая заўвага падкрэслівае неабходнасць уважлівага стаўлення да нюансаў мастацкай творчасці. Так, ужыванне фальклорнай вобразнасці было абсалютна натуральным для Я. Купалы, Т. Шаўчэнкі, А. Кальцова: прыгожа, блізка, родна для аўтараў і іх чытачоў. Перагукі з народнымі песнямі ў вершах сучасных паэтаў таксама адсылаюць нас да багацця народнай культуры, але скарб, атрыманы ў спадчыну ад продкаў, — гэта ўжо не жывыя грошы, а частка музейнай калекцыі: рэліквія, памяць, гісторыя. Народныя песні не актуальныя для сучаснага чытача ў той самай ступені, як стагоддзе таму для яго прабабкі, і вершы, поўныя фальклорных вобразаў, чытаюцца сёння як наследаванне класікам, як працяг пэўнай традыцыі беларускай паэзіі. Далёка не заўсёды гэта будзе «фармальным і бяздумным узнаўленнем», але каб надаць вершу лірычнасці і чуласці, дастаткова аднаго-адзінага адухаўлення ці сталага эпітэта, якія ў шчаслівым суседстве іншых слоў зайграюць і захопяць старажытнай глыбінёй.

Што ж тычыцца першага пункту, калі прафесійны аўтар арыентуецца на дастаткова высокі ўзровень пісьменніцкага майстэрства, то лінія старту для сучаснага празаіка ўжо не Я. Колас ці І. Мележ, а В. Быкаў і У. Караткевіч. Вядома, кожны адметны творца таленавіты па-свойму, але валодаць тэхнікай пісьма амаль на ўзроўні блізкіх да нас літаратурных класікаў у прынцыпе рэальна. У глыбіні душы прафесіянал таксама ўсведамляе, што зробленае ім павінна быць «не горш чым у людзей» — блізкіх ці далёкіх суседзяў. Каб проза альбо паэзія, перакладзеная з беларускай мовы, выклікала ў замежнага чытача прынамсі павагу! Найбольшымі максімалістамі ў гэтым сэнсе былі, відаць, «нашаніўцы»: здавалася, яшчэ некалькі гадоў, і беларуская літаратура ўздымецца да еўрапейскага ўзроўню, дасць імёны сусветнага маштабу… Але еўрапацэнтрызм змяніўся мультыкультуралізмам, колькасць аўтараў, якія ствараюць якасную літаратуру, за стагоддзе павялічылася ў дзясяткі разоў і беларуская літаратура неяк згубілася паміж іншымі, хаця творы еўрапейскага ўзроўню ў ёй былі, і імёны значнага маштабу таксама.

*Чаму б не выпрастаць плечы: вялікія мэты і сёння дарэчы!*

Іх варта асэнсоўваць, да іх варта ісці, а вось пустая амбітнасць толькі замінае на гэтым шляху.

Аматар пачуваецца больш сціпла, чым прафесіянал, ён можа пісаць «проста для сябе» альбо «як атрымліваецца», але напісанае ніжэй за пэўны ўзровень проста не ўлічваецца пры размове аб развіцці літаратуры. Адсюль шмат нараканняў на занядбанасць класічных традыцый: творчасць многіх пісьменнікаў належыць да кансерватыўна-традыцыйнай плыні, яны далёкія ад постмадэрнізму і не схільныя да літаратурных эксперыментаў, але даследчыкі ўпарта не заўважаюць плёну іх працы. Верагодна, справа ў неактуальнасці, хаця асобныя тэксты могуць быць зусім неблагімі. (Зрэшты, у нашай літаратуры не заўважаецца вельмі шмат — у першую чаргу амаль адсутным чытачом.) Праўда, часцей за сціпласць сустракаецца саманадзейнасць і ўпэўненасць ва ўласнай геніяльнасці, якія не дазваляюць аўтару вучыцца, развівацца і рухацца наперад. Адэкватная самаацэнка і самакрытычнасць — таксама абавязковыя рысы прафесіянала.


*Малюнак Алесі Ісы*

…Паводле Т. Вабішчэвіч, якая ці не першай выкарыстала паняцце «інсітнага мастацтва» ў дачыненні да беларускай літаратуры, у першыя гады выдання «Нашай Нівы» большасць пісьменнікаў з'яўлялася менавіта «наіўнымі» аўтарамі. Але іх творчасць была запатрабаванай — напэўна таму, што мела актуальнасць жыццёвую.

## ЖЫЦЦЁВАЕ

Самыя чытаныя сучасныя беларускія празаікі — А. Бахарэвіч, А. Брава, А. Глобус, В. Марціновіч, Ю. Станкевіч, А. Федарэнка — звяртаюцца пераважна да рэалій сённяшняга часу. Але хапае і аўтараў, якіх актуальнае ў сучасным жыцці зусім не вабіць. Пісьменнікі сталага ўзросту непрыхільна ставяцца да глабальных змен 1980 — 1990-х гадоў, у выніку якіх грамадства стала спажывецкім, прагматычным, рацыянальным, бездухоўным, камп'ютарызаваным — гэткая пачвара, вартая абурэння, ад якой хочацца схавацца, адмежавацца, але зусім не назіраць за ёю, каб занатаваць характэрныя рысы, патлумачыць адметнасці і высветліць, як яна гэткай брыдкай зрабілася.

Іншыя аўтары пішуць пра сучаснасць, але высокага, узнёслага вобраза Беларусі не тычыцца ўсё, пазбаўленае выразных нацыянальных асаблівасцей. Цікавасць выклікае гісторыя, вёска, асяроддзе нацыянальна свядомых, звычайна творчых, людзей. Іншыя праблемы і тэмы ў такім мастацкім свеце сустракаюцца рэдка, а жыхары русіфікаванай Беларусі звычайна эпізадычныя і малапрывабныя.

Глыбей, шырэй падумаць пра нашу рэальную краіну — пра тое, чым мы сённяшнія адрозніваемся ад нас дваццаць гадоў таму, чым адметная наша ментальнасць і светаўспрыманне, якія ў нас набыткі, праблемы, перспектывы — празаікі ды паэты наважваюцца не часта. Вядома, можна напісаць выдатны твор без сацыяльнага кантэксту, але ніхто, акрамя беларусаў (пісьменнікаў, журналістаў, сацыёлагаў), не вызначыць гэтыя рэчы. Калі аўтар звяртаецца да жыццёвай праблемы, новай для нашай літаратуры, яго твор можа вельмі зацікавіць. Так, у агледжаных мінулым годам часопісах найбольш запомнілася аповесць Т. Дзямідовіч «Не плач, Лізанька», прысвечаная дзецям з асаблівасцямі развіцця — іх стасункам з настаўнікамі, равеснікамі, пошуку сяброў.

Але «сярэдняму» аўтару звычайна не хапае смеласці, цікаўнасці ці жадання, каб па-свойму пагледзець на сучаснае жыццё. Ён часта робіць галоўнага героя падобным да сябе і мінімалізуе сацыяльны кантэкст. Гаротны эпігон — гэта пераважна канфарміст, якому ўласціва канвенцыянальнае мысленне, яму бракуе ўмення думаць самастойна, глыбока і крытычна. Ён прадказальны і стэрэатыпны — зрэшты, ёсць людзі, якім важна не выявіць уласназаўважанае, а сцвердзіць агульнапрыняты погляд. Адстойваць значнасць традыцыйных каштоўнасцей і жыццёвых прынцыпаў таксама варта, але рабіць гэта пажадана тонка, разумна і доказна, бо многія класічныя ўстаноўкі сёння не з'яўляюцца безадноснымі.

Беларуская паэзія — звычайна таксама маналог, расповед пра сябе ці сваіх блізкіх — каханых, бацькоў, дзяцей. Вершы пра нас пішуцца рэдка, і ідэі іх звычайна не новыя: альбо варыяцыі на тэму «Люблю свой край, старонку гэту...», альбо размова пра Маці-Краіну («як сэрца начамі аб радзімай старонцы баліць...»). Па вопыце іншых літаратур відаць, што магчыма і большая разнастайнасць. Але каб творы мелі жыццёвую актуальнасць, трэба разважаць над сучаснасцю, прыглядацца да яе, звяртаць увагу на прыватныя моманты, якія звычайна не вылучаюцца. Праўда, мысленне пісьменніка адметнае: ён думае вобразамі, сюжэтамі, дыялогамі, і такія рэкамендацыі падаюцца празмерна агульнымі. Канкрэтная размова пра выяўленне сучаснасці можа весціся ў рэцэнзіях, у артыкулах, прысвечаных творчасці асобных аўтараў. І прафесійны пісьменнік абавязкова цікавіцца тым, што пішуць пра літаратуру — ад «Паэтыкі» Арыстоцеля да амерыканскага бестселера «Як напісаць геніяльны раман?».

З непрыманнем, няведаннем, неразуменнем сучаснасці — як жыццёвай, так і літаратурнай — можна займацца і творчасцю, і крытыкай, і даследчай працай, але стварыць актуальную для свайго часу рэч амаль немагчыма. Чарговы артыкул будзе прысвечаны іншым адметнасцям сучбеллiту — зноў у звязку з праблемамі «сярэдняга аўтара».

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**




# Шчырыя вершы народныя

**У Слонімскай друкарні пабачыла свет кніга вершаў 81-гадовай паэткі з вёскі Шыганы Слонімскага раёна Алены Чайкоўскай. Сваю кнігу спадарыня Алена назвала ў гонар роднай вёскі — «Шыганы вы мае, Шыганы».**

Пісаць вершы А. Чайкоўская пачала ў 57 гадоў. Усё жыццё працавала швачкай, выгадавала двух сыноў і дачку, мае сем унукаў і пяць праўнукаў. Калі пайшла на пенсію, то перачытала беларускую класіку, але любімым паэтам для яе быў і застаецца Максім Багдановіч.

А. Чайкоўская піша толькі па-беларуску. Са старонак яе кнігі паўстаюць вобразы прыгожых і адданых сваёй справе людзей, якія любяць Бацькаўшчыну. Жанчына пяе гімн роднаму слову, роднай прыродзе, яна хораша апісвае вясковае жыццё і людзей, якія жывуць з ёй побач.

Прадмоўку да кнігі напісала слонімская паэтка Ірына Войтка: «Алена Чайкоўская — не прафесійная паэтка. Яна не вывучала канонаў вершаскладання. Яна стварыла прыгожыя, вартасныя, моцныя па выражэнню думкі і пачуцця творы».

Але І. Войтка трохі пераацаніла магчымасці паэткі з Шыганоў. Я такіх аўтараў называю народнымі: яны працавалі на зямлі ці на гарадскім прадпрыемстве, размаўлялі на роднай мове, выхоўвалі сваіх дзетак на казках і калыханках. А пасля і самі пачыналі пісаць — як умелі, як атрымлівалася.

Былі такія паэты і на Слонімшчыне. Іх вершы былі прасякнуты грамадзянскім пафасам, вабілі шчырасцю і адкрытасцю. Іх творы друкаваліся на старонках мясцовай і часам рэспубліканскай прэсы. Прыгадаем Алеся Сучка, Аляксея Кумейшу, Валянціну Ададураву, Янку Карповіча, Уладзіміра Шундрыка, Рудольфа Пастухова. Пры жыцці толькі Валянціне Ададуравай і Рудольфу Пастухову пашчасціла патрымаць у руках свае першыя кнігі.

Вершы А. Чайкоўскай заклікаюць паважаць матчыну мову, бо на ёй «салоўка ў гаі заліваўся, на матчынай мове калісьці мне любы ў каханні прызнаўся, на матчынай мове ў садзе зязюля кувала, на матчынай мове сыночкам, дачушцы я песні спявала…». Праз усе творы праходзяць фальклорныя матывы, цікава выглядаюць невялікія запамінальныя мініяцюркі.

Верыцца, што Алену Іванаўну першы зборнік натхніць на новыя вершы і творчыя разважанні.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Аблічча

# Ракуцёўскае лета

Споўнілася 20 год з таго дня, як музейны комплекс «Фальварак Ракуцёўшчына» гасцінна расчыніў дзверы для наведвальнікаў. Маляўнічы куток Беларусі стаў месцам паломніцтва прыхільнікаў творчасці Максіма Багдановіча. Ладзіць тут штогод свята паэзіі і песні «Ракуцёўскае лета» ўжо стала добрай традыцыяй. Сяргей Панізнік згадвае гасцей першага «Ракуцёўскага лета», а супрацоўнікі музея распавядаюць, як гэта адбываецца сёння.

Першае свята паэзіі і песні «Ракуцёўскае лета», прысвечанае памяці Максіма Багдановіча, прайшло 21 мая 1983 года. Падзея лета 1911 года, калі ў сядзібе шляхціца В. Лычкоўскага гасцяваў 20-гадовы паэт, не была забыта яго прыхільнікамі. Ракуцёўшчына стала месцам высокага натхнення творцы, які на два месяцы «зазямліўся» ў родны мацярык. «Страніца лепшая ў штодзённіку жыцця», — так ацэніць пазней М. Багдановіч сваю пабыўку ў шляхетным фальварку.

Прыгадваю той час, калі «Фальварак Ракуцёўшчына» стаў філіялам Літаратурнага музея М. Багдановіча, набыў статус культурнага помніка Беларусі. Каго толькі ні сустракаў я каля Максімавай крыніцы, апынуўшыся на гэтым святым надзеле маладзечанскай зямлі.

…Вось ідзе ў кашулі-вышыванцы Максім Лужанін, аглядае прысутных Барыс Сачанка, учытваецца ў надпіс на валуне Ніна Ватацы. Генадзь Каханоўскі прысеў на камяні і нешта пазначае ў нататніку. Трапілі на фотастужку абліччы Янкі Саламевіча, госця з Вільні Лявона Луцкевіча. Каля іх убачыў і Вячаслава Ляшковіча, бо Маладзечанскі райвыканкам сваімі высілкамі падтрымліваў высокі розгалас свята паэзіі і песні.

І ўсё ж адзін здымак дваццацігадовай даўнасці з водбліскамі незгасальнай бадзёрасці хачу прапанаваць чытачам рубрыкі «Аблічча». Хлеб-соль «ад Максіма Багдановіча» атрымалі на смакаванне ракуцёўскага лета дзве невыпадковыя асобы. Дастаўся ганаровы пачастунак маладому народнаму паэту Рыгору Барадуліну, а таксама паэту, перакладчыку, а самае галоўнае — аўтару «свежага» рамана-даследавання «Каханне і смерць, або Лёс Максіма Багдановіча» Яўгену Міклашэўскаму.

Хай па хлеб-соль, па духоўнае наталенне прыбываюць у Ракуцёўшчыну новыя шчаслівыя наведнікі, бо тут «…нібы крыніца, поіць сілы // моц Багдановіча Максіма».

**Сяргей ПАНІЗНІК**



Фота Сяргея Панізніка

Рыгор Барадулін і Яўген Міклашэўскі. Ракуцёўшчына. 21.05.1983.



Фота Юліі Мацук

Хлебам-соллю гасцей сустракае дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч.

***

Святкаванне «Ракуцёўскага лета» пачалося ля двух валуноў — мемарыяльнага знака, які сімвалізуе вяртанне Максіма Багдановіча на Радзіму. Валуны ўяўляюць сабой вобразы каменясвечкі і каменя-ахвярніцы. На адным з іх — радкі з «Санета», а на другім пазначана, што менавіта сюды, у Ракуцёўшчыну, прыязджаў М. Багдановіч летам 1911 года і гэты перыяд быў для яго часам натхнення і плённай працы, глыбокага спасціжэння роднай мовы на роднай зямлі.

Сёння музейны комплекс «Фальварак Ракуцёўшчына» ўключае дом гаспадара, дом арандатара, гаспадарчыя пабудовы. Стварэнне комплексу распачалося ў 1991 годзе і канчаткова было завершана ў 2007-м. Цяпер «Фальварак Ракуцёўшчына» з'яўляецца філіялам Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Для наведвальнікаў былі праведзены экскурсіі па музейным комплексе, а для малодшых школьнікаў — музейна-педагагічныя заняткі «Сам зраблю батлеечную ляльку». Гучалі радкі з вершаў М. Багдановіча, напісаных ім тут, сярод маляўнічых краявідаў Айчыны.

Тым часам госці свята сабраліся каля галоўнай сцэны Ракуцёўшчыны, дзе пачалася ўрачыстая праграма «Ракуцёўскага лета». Вядучыя музычна-літаратурнай часткі мерапрыемства — Алеся Сівохіна з Мінска і Кацярына Бабок з Маладзечна — чыталі вершы Багдановіча, распавядалі пра цікавыя факты з жыцця паэта.

Гасцей шчыра віншавалі загадчыца сектара культуры аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама Тамара Дудзіч, дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч, загадчыца Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Марына Запартыка, прадстаўніца роду Багдановічаў, сваячка паэта па бацькоўскай лініі Вольга Дашкоўская, а таксама беларускі пісьменнік, публіцыст, грамадскі дзеяч Анатоль Бутэвіч. «І далёка ад Беларусі можна быць грамадзянінам сваёй Радзімы. Максім Багдановіч усё жыццё пераадольваў перашкоды на шляху да гэтай мары і з годнасцю прайшоў праз усе выпрабаванні. Мы павінны ганарыцца прыкладам яго самаахвярнага служэння Бацькаўшчыне», — зазначыў А. Бутэвіч. Падкрэслілі значэнне дзейнасці музея ў папулярызацыі творчасці паэта былы дырэктар музея Мікола Трус, аўтар мастацкай канцэпцыі экспазіцыі Эдуард Агуновіч.

Чыталі вершы паэты Людміла Рублеўская, Віктар Шніп, Серж Мінскевіч, Андрэй Хадановіч, Зміцер Арцюх, Кацярына Глухоўская, Марыя Мартысевіч, Віктар Лупасін. Упрыгожылі свята барды Аляксей Галіч, Раман Яраш і гурт «Нельга забыць».

Вёска Ракуцёўшчына — гэта тэрыторыя Маладзечанскага раёна, дзе людзі пра культуру не забываюцца. На сцэну выходзілі мясцовыя самадзейныя артысты — танцавальны калектыў «Каданс» Красненскага СДК, вакальны калектыў «Голас» Радашковіцкага цэнтра культуры ды іншыя.

Нягледзячы на спёку, свята атрымалася запамінальным. Асобная падзяка — начальніку аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама Аляксандру Рамановічу, без дапамогі якога зладзіць «Ракуцёўскае лета» было б немагчыма.

Сёння, калі людзі заклапочаны пераважна матэрыяльным дабрабытам, захаванне і папулярызацыя мясцін, звязаных з жыццём і творчасцю генія беларускага слова М. Багдановіча, патрабуе шмат высілкаў. Але за 20 гадоў з моманту адкрыцця «Фальварка Ракуцёўшчына» дзякуючы дзейнасці музейнага комплексу да творчасці Максіма Багдановіча далучыліся тысячы чалавек, і ёсць падставы меркаваць, што гэта не мяжа.

**Юлія МАЦУК,**
**Таццяна БАРАДУЛЯ**

# Аўтарытэт

Вечарына з нагоды 70-гадовага юбілею вядомага тэатра- і літаратуразнаўцы, доктара філалагічных навук, прафесара, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Сцяпана Лаўшука прайшла ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі. Тут адбылося і адкрыццё кніжнай выстаўкі «Выдатны знаўца айчыннай драматургіі», прысвечанай навуковай і творчай дзейнасці юбіляра.



Першы намеснік старшыні Прэзідыума НАН Беларусі, доктар тэхнічных навук Сяргей Чыжык і акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, доктар гістарычных навук Аляксандр Каваленя віншуюць Сцяпана Лаўшука з юбілеем.

Сцяпан Сцяпанавіч Лаўшук нарадзіўся недалёка ад Рэчыцы, у мястэчку Васілевічы, гадаваўся ў вялікай сям'і, дзе было аж дзевяць дзяцей. Пасля школы паехаў на Урал, як казаў сам Сцяпан Сцяпанавіч, «за туманам і за водарам тайгі». Хутка адтуль вярнуўся, у 1962 годзе паступіў на філалагічны факультэт БДУ. Падчас вучобы шмат займаўся спортам, сёння нават ганарыцца тым, што змог выканаць нарматыў майстра спорту па вольнай барацьбе. Неяк падчас летняй працоўнай сесіі на асваенні цалінных земляў разам з іншымі студэнтамі-філолагамі наведаў магілу Змітрака Бядулі каля Уральська, якая ў той час знаходзілася на мяжы знікнення. Але ўжо праз год, дзякуючы клопату маладых даследчыкаў, на месцы пахавання класіка беларускай літаратуры з'явілася маналітная надмагільная пліта з надпісам на трох мовах.

Пасля заканчэння ўніверсітэта Сцяпан Лаўшук працаваў у Лунінецкім раёне настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, намеснікам дырэктара і дырэктарам школы. Аднак яго заўсёды захапляў тэатр. Унутранае жаданне да творчай самарэалізацыі падштурхнула да паступлення ў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. Ён паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю па тэме «Сучасная беларуская драматургія: праблемы канфлікту і характару» і быў залічаны ў штат Інстытута літаратуры АН БССР. Сёння Сцяпан Сцяпанавіч ужо доктар філалагічных навук, займае пасаду галоўнага навуковага супрацоўніка Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі.

Мае сына, дачку, двух унукаў. Любіць працаваць на дачы, што на Лысай Гары. З'яўляецца аўтарам многіх кніг, а таксама амаль трох соцень артыкулаў у розных энцыклапедычных і навуковых выданнях, перыёдыцы. Сёння апякуецца выданнем 10-томнага збору твораў свайго вядомага земляка Івана Навуменкі. Любіць наведваць родныя Васілевічы. Нават неяк прызнаваўся, што ўсіх васілёўцаў лічыць сваякамі, таму старaецца дапамагчы кожнаму, хто трапляе ў складанае становішча.

Каб павіншаваць Сцяпана Сцяпанавіча з юбілеем, у бібліятэцы імя Якуба Коласа сабраліся яго калегі, сябры, землякі і сваякі. З Магілёва ў Мінск завітаў Аляксей Лаўшук, родны брат Сцяпана Лаўшука, з дзецьмі. Сёння ён дэкан філалагічнага факультэта Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова. З віншавальным словам да юбіляра звярнуўся і акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, доктар гістарычных навук Аляксандр Каваленя:

— У вас шмат задум, мы з вамі многа спрачаемся наконт таго, каб наша беларускамоўная крытыка больш актыўна ўдзельнічала ў стварэнні новых твораў. Вы робіце ў гэтым напрамку шмат. Я думаю, што крытыка ва ўсе часы з'яўляецца рухавіком творчасці.

Незвычайны падарунак — кветкі з кветніка Дома літаратара і крыштальную кнігу — прынёс юбіляру яго сябар — першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў. Ён распавёў:

— Сёння я ўспамінаў, колькі гадоў мы знаёмыя. І палічыў, што без двух гадоў паўвека. На першым курсе філфака ўсе, хто ленаваўся ісці на фізкультуру, запісваліся ў розныя секцыі, і я запісаўся на вольную барацьбу. Быў там і Сцяпан Лаўшук. Калі мы, першакурснікі, пасля заняткаў заходзілі ў душ, ён глядзеў на нас зняважліва, з вышыні чацвёртага курса, і даваў параду: «Трэба, хлопцы, качаць біцэпс». Для нас ён быў несумненным аўтарытэтам. Пасля нашы дарогі разышліся, але ў канцы 1980-х мы пачалі цесна супрацоўнічаць, праводзілі агульныя імпрэзы Саюза пісьменнікаў і Акадэміі навук.

З юбілеем Сцяпана Сцяпанавіча таксама віншавалі вядомыя навукоўцы, даследчыкі беларускай культуры, літаратуры, мовы і тэатра: Аляксандр Лукашанец, Аляксандр Лакотка, Сяргей Гаранін, Ігар Капылоў, Уладзімір Гніламёдаў, Міхась Мушынскі, сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, Рычард Смольскі і многія іншыя вядомыя дзеячы. «ЛіМ» таксама віншуе юбіляра. Мы далучаемся да ўсіх пажаданняў, зычым моцнага здароўя, плёну ў працы, няўрымслівасці, поспехаў, натхнення.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**




*«Хтосьці дзесьці чакае ад цябе ліст. Проста некалькі радкоў вырашаюць усё» — такі матывацыйны плакат надрукаваны на апошняй старонцы кнігі «Лісту: цікавая гісторыя карэспандэнцыі».*

*Даляглядзы*

# Каб не ўмёрлі... лісты

Цягам многіх стагоддзяў яны былі спадарожнікамі жыцця, бадай, кожнага чалавека. Прыносілі радасць, давалі надзею, суцяшалі ці расчароўвалі. Іх нават сёння многія захоўваюць як сямейныя рэліквіі, звяртаюцца да іх, проста разглядаюць ці перачытваюць. Напісаныя на паперы, лісты сталі часткай агульнай гісторыі чалавецтва, асабістага летапісу амаль кожнага з нас. «Свет без лістоў быў бы светам без кіслароду», лічыць брытанскі журналіст і пісьменнік Сайман Гарфілд, таму і прысвячае ім цэлую кнігу ў жанры нон-фікшн. Выданне «Лісту: цікавая гісторыя карэспандэнцыі» (To the Letter: a Curious History of Correspondence) пабачыла свет сёлета ў лонданска-эдынбургскім выдавецтве Canongate.

«Лісты маюць уласцівасць падаўжаць нам жыццё. Яны паказваюць матывацыю і паглыбляюць разуменне. Гэта відавочна. Яны змяняюць жыцці і наноў манціруюць гісторыю. Аднойчы свет звыкся да іх дапамогі — як каталізатара чалавечых адносін і вадаспаду думак, маўклівага трубаправода каштоўнага і выпадковага… Падавалася немагчымым, што іх значнасць калісьці не будзе ўспрымацца як відавочная ці ўвогуле адсунецца ўбок», — так разважае пісьменнік у прадмове да гэтага незвычайнага выдання. І сапраўды, складана ўявіць гісторыю, напісаную без уліку перапіскі паміж значнымі дзеячамі часу, літаратуру — без лістоў заканых пісьменнікаў ці засцікаўленых біёграфаў. Знікненне лістоў як з'явы прывяло б да знікнення цэлага эпістальярнага жанру, а наша мова пабяднела б на мноства ласкавых зваротаў, эпітэтаў, метафар. Свет стаў бы не такім шчырым, бо менавіта паперы многія даверылі свае самыя патаемныя думкі, выказвалі самыя глыбокія пачуцці.

Але сёння, у час панавання інтэрнэту, лісты перажываюць перыяд заняпаду. Пагадзіцеся, ліст, дасланы па электроннай пошце, зусім не выклікае такога хвалявання і задавальнення, як напісаны на паперы ад рукі. Ды і электронную перапіску наўрад ці нехта будзе збіраць, перавязваць чырвонай стужкай, захоўваць гадамі і выдаваць асобнай кнігай. Самы лепшы лёс, які чакае віртуальны ліст, — магчымасць не быць выдаленым у «кошык» і перамяшчэнне ў катэгорыю «выбранае».

«Я паспрабаваў даследаваць, як мы пісалі адзін аднаму цягам стагоддзяў і як нашы лісты адлюстроўваюць нашы жыцці, — разважае Сайман Гарфілд. — Я разглядаю ролю, якую лісты адыгрывалі як літаратурны прыём у творчасці Шэкспіра і эпістальярным рамане, даследую некаторыя прыклады перапіскі вялікіх асоб розных часоў — Цыцэрона і Петраркі, Джэйн Осцін і Тэда Х'юза (таксама Джона Кітса, Вірджыніі Вульф, Джэка Керуака)».

Але не трэба думаць, што кніга Саймана Гарфілда, якая мае аб'ём больш як 450 старонак, — усяго толькі плач па лістах на паперы. Гэта зусім не так. Пад яркай стылёвай вокладкай хаваецца мноства цікавых фактаў. Ці ведалі вы, што ў Вікторыянскай Англіі павага да ліставання была настолькі вялікая, што нават Оскар Уайльд мог проста выкінуць праз акно свайго пакоя ў Чэлсі лісты з ужо наклеенымі маркамі і быць упэўненым, што нейкі мінак абавязкова занясе іх у найбліжэйшую паштовую скрынку? Што Льюіс Кэрал распрацаваў дызайн спецыяльнага кашалька для захоўвання марак і напісаў дапаможнік па складанні лістоў? Так, некаторыя парады пісьменніка досыць відавочныя. Кэрал раіў: «Пішыце разборліва, а перад тым як адказаць на чыйсьці ліст, пераканайцеся, што вы прачыталі яго ўважліва і напісалі на канверце правільны адрас». Некаторыя парады досыць асабістыя і, напэўна, адлюстроўваюць вопыт самога аўтара: «Калі вы пішаце, што далучаеце чэк ці чыйсьці ліст, спыніцеся на хвілінку, вазьміце дакумент, пра які ідзе гаворка, і пакладзіце яго ў канверт. Калі вы гэтага не зробіце, то будзьце ўпэўненыя, што знойдзеце той самы чэк побач, але ўжо пасля таго, як пошта будзе адпраўленая».

Кніга «Лісту: цікавая гісторыя карэспандэнцыі» прапануе і іншыя парады па напісанні лістоў — складзеныя ў адпаведнасці з самымі аўтарытэтнымі дапаможнікамі розных часоў, распавядае, як зрабіць нябачнае чарніла, і знаёміць з сумнай гісторыяй месца, куды трапляюць мёртвыя лісты. Тут можна пабачыць вывы марак розных часоў, незвычайныя паштоўкі і рэкламу-заклік пісаць лісты, прачытаць вытрымкі з трагічных і лёсавызначальных ліставанняў. Сайман Гарфілд спадзяецца, што кніга абудзіць у чытача жаданне ўзяць аркуш паперы, ручку, напісаць пра свае думкі, падзеі жыцця і адасласць ліст сябру ці сваяку.

Хочацца верыць, гэтае выданне хаця б нагадае пра залаты век лістоў і на некаторы час адцягне смерць цэлай эпохі ў гісторыі чалавецтва — эпохі ліставання.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Адначаснікі*



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# Надзея

Расказваць пра тое, колькі выпрабаванняў, гора і слёз выпала на лёс гэтай жанчыны, — страшна і балюча.

З дзяцінства цяжкая хвароба, якая зрабіла яе інвалідам, ранняя смерць сястры Святланы ад недарэчнага выпадку, смерць мужа Івана, цяжкая хвароба брата Валодзі, смерць матулі, з якой яна жыла ў сваёй двухпакаёўцы ў Полацку, цяжкая хвароба і ампутацыя нагі ў малодшага брата Колі, якога яна цяпер даглядае ў ягонай халасцяцкай наваполацкай кватэры…

Здавалася: як гэта можа вытрымліваць сэрца?! Надзя трымалася. Але ледзь не сарвалася, калі даведалася пра смерць кампазітара і спевака Ізмаіла Капланава. Я ніколі раней не чуў столькі адчаю і болю ў яе голасе па тэлефоне, як у той журботны дзень.

І. Капланаў і заслужаная артыстка Беларусі Нэлі Багуслаўская сталі на шляху Надзеі Салодкай добрымі анёламі, якія свяцілі ёй дабрынёй і спагадай.

Цяжка пералічыць усе папулярныя і душэўныя песні, якія напісаў на вершы Надзеі Салодкай Ізмаіл Львовіч. Яны гучалі на канцэртах у выкананні не толькі яго і Нэлі Захараўны. Іх спявалі і спяваюць Іна Афанасьева, Ірына Дарафеева, Алег Сямёнаў. Крылы паэтычным радкам Н. Салодкай таксама далі народны артыст Леанід Захлеўны і ансамбль «Бяседа».

А ў далёкія сямідзясятыя гады Надзя Салодкая працавала машыністкай у полацкай газеце «Сцяг камунізму». Тады і адбылося наша знаёмства і завязалася сяброўства, якому ўжо больш як сорак гадоў.

Радкам, што пісала ў той час Надзя, яшчэ не было наканавана стаць сапраўднай паэзіяй. Гэта адбылося значна пазней. Але ў рэдакцыі ўсе любілі маладую жанчыну за вясёлы, добры характар, за тое, што яна не паддавалася хваробе, якая ўжо тады прагрэсіравала і перашкаджала ёй нармальна жыць.

Ішлі гады, Надзя вымушана была застацца дома, а падзарабляла перадрукоўкай твораў полацкіх літаратараў. Некаторыя з іх, стаўшы вядомымі пісьменнікамі, пераехалі ў Мінск, але ўсё роўна давяралі Н. Салодкай напісаныя творы.

Гэтак рабіў і я, бо заўсёды чакаў ад Надзеі яе водгукаў на напісанае, нават рэдактарскіх заўваг.

І вось аднойчы Н. Салодкая паказала мне свае новыя вершы. Скажу шчыра, я быў уражаны. У яе радках з'явілася тое сапраўднае, што вызначае паэта. З задавальненнем прадставіў падборку ў мясцовай газеце, потым пайшлі публікацыі ў абласным, рэспубліканскім друку, прадмову для першай кнігі напісаў Анатоль Вярцінскі…

Не абышлося без прыгод і пры ўступленні ў Саюз пісьменнікаў. Я быў ініцыятарам і пісаў рэкамендацыю, але адзін з нашых мэтраў доўга не ставіў на абмеркаванне творчасць паэткі, усяляк зацягваў працэс. І тут Салодкай давялося цярпець, але ўрэшце падзея адбылася.

Сёння Н. Салодкая — аўтар каля дзясятка паэтычных зборнікаў, шматлікіх песень, ганаровы грамадзянін горада Полацка…

Сэрца яе па-ранейшаму адкрыта да дабрыні, спагады, да высокіх і светлых памкненняў.

Нездарма ж яе імя — Надзея.





## МАКСІМ БАГДАНОВІЧ І ДЗІЯДОР ДЗЯБОЛЬСКІ

# Сяброўства як дарунак лёсу

*Быць можа, пуціна жыцця*
*Лягла пярсцёнкам, друг,*
*І я ў краіне забыцця*
*Не раз раджаўся, як дзіця,*
*Прайшоўшы поўны круг.*

**Д. Д. Дзябольскаму**
**М. Багдановіч**

Не кожнаму даводзіцца сустрэць сапраўднага сябра — чалавека, які не будзе родным крэўна, але падзеліць захапленні, падтрымае, дапаможа. Максіму Багдановічу ў гэтым сэнсе вельмі пашчасціла: на сваім жыццёвым шляху ён сустрэў менавіта такога сябра. Ім стаў Дзіядор Дзябольскі, чалавек з цікавым і складаным лёсам. У гэтым годзе спаўняецца 50 гадоў, як яго не стала. У свой час, за шэсць гадоў да адыходу ў вечнасць, Д. Дзябольскі па просьбе беларускіх даследчыкаў напісаў успаміны пра М. Багдановіча, дзякуючы якім выявілася шмат цікавых фактаў з жыцця і творчасці паэта. Аматарам беларускай літаратуры будзе цікава даведацца пра нюансы гэтага рэдкага ў сваёй шчырасці сяброўства, а таксама пра жыццёвы шлях лепшага таварыша беларускага класіка.

Дзіядор Дзмітрыевіч Дзябольскі нарадзіўся ў горадзе Рыбінску ў 1892 годзе ў сям'і гарадскога суддзі. З семярых дзяцей ён быў малодшым. Вучыўся ў Яраслаўскай мужчынскай гімназіі. Тут пазнаёміўся з М. Багдановічам у 1908-м. У гэтым годзе Багдановічы пераехалі на сталае жыхарства ў Яраслаўль. Дзіядор таксама цікавіўся літаратурай, і менавіта дзякуючы гэтаму агульнаму захапленню яны з Максімам і сталі блізкімі сябрамі, якіх у далейшым звязала не толькі любоў да літаратуры, але і ўзаемаразуменне.

Яраслаўскі перыяд у творчасці М. Багдановіча літаратуразнаўцы вызначаюць як самы плённы і яскравы. Менавіта ў гэты час яго талент выкрышталізаваўся і расквітнеў. Гэта адбывалася на вачах яго сябра: Д. Дзябольскаму было добра вядома, чым жыве Максім Багдановіч і сям'я паэта. Яго ўспаміны прасвятлілі некаторыя цьмяныя моманты ў біяграфіі Максіма і дапамаглі вызначыць адрасатаў пэўных твораў. Дзіядор якраз звярнуў увагу на тое, што будучы паэт часта гасцяваў у іх і закахаўся ў Ганну. Дзябольскі не сказаў пра гэта наўпрост — факт вынікае з успамінаў: «У апошнія гімназічныя гады Максім пазнаёміўся з сям'ёй свайго аднакласніка Рафаіла Какуева і стаў часта там бываць, пасябраваўшы не столькі з братамі Рафаілам і Мікалаем, як з дзвюма іх сёстрамі — Ганнай і Варварай. Яны вучыліся ў жаночай гімназіі і з Максімам былі прыкладна аднагодкі. Абедзве добра ведалі мовы і былі вельмі прывабнымі, асабліва Ганна, стройная, з тонкім тварам і цёмнымі вачыма. Вясною Максім амаль кожны вечар бываў у іх; на вялікім двары какуеўскага дома па вечарах гулялі ў гарадкі. Максім быў уражаны гульнёй і з захапленнем пра яе расказваў. У радках пра гарадкі ў вершаваным апавяданні «Вераніка» я адразу ж пазнаў яго расказы аб гарадках у веснавыя светлыя вечары на двары Какуевых». Дзяўчына з Яраслаўля так і засталася няспраўджаным каханнем М. Багдановіча, пра якое паэт нікому не распавядаў, але яно зрабілася штуршком да з'яўлення шмат якіх цудоўных лірычных вершаў. Дзякуючы ўспамінам Д. Дзябольскага, літаратуразнаўцам стала дакладна зразумела, што літары А. Р. К. на пачатку цыкла «Мадонны» дэшыфруюцца менавіта як «Анна Рафаілаўна Какуева». А большасць даследчыкаў творчасці паэта сыходзяцца на тым, што і знакаміты «Раманс» прысвечаны ёй.

Ва ўспамінах Дзябольскага вельмі кранальнымі паўстаюць многія рэальныя асобы, з якімі ў Максіма былі цёплыя адносіны: маленькая пляменніца Дзіядора — Вераніка Залатарова, Марыя Іванаўна — жонка старэйшага брата Уладзіміра Дзябольскага. (Фотаздымкі Веранікі, Марыі Іванаўны, братоў Івана і Дзіядора Дзябольскіх і іх асабістыя рэчы захоўваюцца ў фондах Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску.) Дзіядор таксама распавёў цікавыя гісторыі напісання М. Багдановічам некаторых твораў: дзіцячага вершыка «Слушай, Рона, эту сказочку про гагу», паэмы «Вераніка». Не абмінуў увагай і летнюю вандроўку маладога паэта ў Вільню і Ракуцёўшчыну. Дзіядор схіляўся да думкі, што пасля гэтай паездкі М. Багдановіч дакладна адчуў сябе беларускім паэтам. Як сапраўдны сябра, які тонка адчуваў псіхаэмацыйны стан свайго геніяльнага таварыша, Дзіядор выказаў меркаванне і адносна так званай «загадкі» Багдановіча. На думку сябра паэта, Максім тонка адчуваў беларускую мову: яна не гучала вакол, але выразна гучала ўнутры, у сэрцы творцы.

Нягледзячы на тое, што Д. Дзябольскі быў карэнным яраслаўцам, дзякуючы Максіму Багдановічу ён з цікавасцю знаёміўся з разгортваннем тагачаснага беларускага руху, чытаў першую легальную беларускую газету «Наша Ніва». Калі ў свет выйшаў зборнік «Вянок» Максіма Багдановіча, адзін з экзэмпляраў атрымаў у падарунак і Дзіядор.

Дзябольскі так успамінаў сваю апошнюю сустрэчу з паэтам: «Апошні раз я бачыў Максіма, калі зайшоў да яго ў адзін з прыездаў у Яраслаўль, трэба думаць, у 1916 годзе. Максім быў нездаровы і ляжаў апрануты на ложку. На ім была новая, цёмна-зялёная студэнцкая тужурка. Прыйшоў са свайго пакоя Адам Ягоравіч і, ласкава пагладзіўшы яго густыя, тады доўгія каштанавыя валасы, зачэсаныя назад, любоўна і жартаўліва сказаў: «Беларускі Гамер».

Максім паехаў на Беларусь, у Мінск, а ў лютым 1917 года — на лячэнне ў Ялту. Больш сустрэцца ў гэтым жыцці Максіму і Дзіядору не давялося.

Некалькі слоў варта сказаць пра далейшы лёс Д. Дзябольскага. Пасля заканчэння гімназіі ён вучыўся на юрыдычным факультэце Маскоўскага ўніверсітэта. Калі распачалася Першая сусветная вайна, быў санітарам у адным з атрадаў Земскага саюза. Пазней узнагароджаны Георгіеўскім медалём за мужнасць. Калі памёр старэйшы брат Іван, у 1916 годзе Дзіядор ажаніўся з дзяўчынай, якая была закаханая ў яго і выйшла замуж толькі таму, што Дзіядор таксама насіў прозвішча Дзябольскі. У 1917-м у іх нарадзіўся сын Іван. Пасля вайны сябар Багдановіча працаваў эканамістам у розных установах.

У 1920-я гады Д. Дзябольскі зацікавіўся індыйскай філасофіяй, знаёміўся з ёй па нямецкіх перакладах. Сам перакладаў з нямецкага Упанішады — старажытнаіндыйскія трактаты рэлігійна-філасофскага характару, асобныя главы Махабхараты (старажытнаіндыйскі эпас), у якіх закранаў глыбокія праблемы пазнання і веры. У 1950-я гады знаходзіўся ў працяглай перапісцы з акадэмікам Барысам Леанідавічам Смірновым, перакладчыкам Махабхараты з санскрыту.

У часы сталінізму Дзябольскі быў двойчы рэпрэсіраваны. Знаходзіўся ў зняволенні ў 1934—1935-х і 1948—1955 гадах. Дакладна вядома пра дзённік, які вёў Дзіядор, але ён быў знішчаны карнымі органамі: думаецца, там былі і старонкі, прысвечаныя М. Багдановічу. У Дзіядора захоўваліся лісты паэта, але і яны зніклі пасля яго арышту ў 1934 годзе.

Пасля вяртання са зняволення ў 1950-я гады Д. Дзябольскі не меў дазволу жыць у Маскве. Як толькі такая магчымасць з'явілася, пераехаў туды на сталае жыхарства. Пра гэты перыяд жыцця распавяла ва ўспамінах пляменніца Ніна Сяргееўна Дзябольская. Родны дзядзька меў на яе такі вялікі ўплыў, што пазней спадарыня Ніна стала цікавіцца творчасцю Максіма Багдановіча, пераклала творы беларускага паэта на французскую мову і сёння з'яўляецца сябрам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, як калісьці былі сябрамі Дзіядор і Максім.

**Ала ІВАШКЕВІЧ,**
**старшы навуковы супрацоўнік філіяла «Літаратурны музей Максіма Багдановіча» Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры**

# Формула тела




Знали вы или нет, кто впервые описал структуру ДНК, открыв «секрет жизни»? Почему человек болеет и как укрепить его иммунитет? Из-за чего мы спим, как правило, ночью? Как работает самый неутомимый мотор на свете — сердце? Можно ли избавиться от стрессов и переутомления? Эти и другие любопытные и полезные факты вы найдёте в книге «Самый полный атлас по анатомии и физиологии», вышедшей в «Издательстве АСТ» при поддержке ООО «Харвест».

Издание впечатляющего формата уводит читателей в увлекательную экспедицию по человеческому организму, раскрывая тайны медицинской теории и практики, строения и жизнедеятельности органов, их систем, тканей и клеток. Сложные для ненаучного восприятия анатомия и физиология с помощью энциклопедии воспринимаются легко и с интересом.

Материал несколько упрощён, ведь книга является научно-популярным трудом, рассчитанным на широкого читателя. Но зато в ней более тысячи красочных, практически трёхмерных, фотографий, таблиц, схем, точно передающих цветовые и структурные особенности органов тела. По словам выдающегося физиолога Ивана Павлова, только с помощью знаний можно вовремя вычислить причины атакующих человека болезней и ликвидировать их.

В издании материал организован по принципу «сверху вниз», то есть от головы к пальцам ног, и разбит на двенадцать больших глав. «Наше тело — не просто совершенная машина, оно состоит из миллиардов микроскопических единиц, каждая из которых обладает уникальными функциями, и при этом все они согласованно работают, образуя безотказно работающий организм», — рассказывается во «Введении». Здесь же повествуется об истории развития медицины со времён глубокой древности, когда египтяне изгоняли болезнетворных духов с помощью снадобий и заклинаний, до «умных» лекарств XXI века, разработанных с помощью ДНК-технологий, а также роботизации и клонирования.

В первом разделе «Голова» описывается внутреннее и внешнее строение черепа, «шлема», защищающего от повреждения мозг и органы чувств. Здесь можно найти исчерпывающую информацию о лицевых нервах и мышцах, узнать о причинах различных патологий. Кроме того, даются ответы на множество вопросов. Каково предназначение различных зубов, которые сначала растут, а потом разрушаются? Почему танцоры вращаются на одной точке, не чувствуя головокружения? Важен ли смех для жизни? Как работает память и возникают сновидения?

Заинтригованный читатель наверняка обратится и ко второй главе об органах чувств, ведь именно они являются основой нашего взаимодействия с окружающим миром. Благодаря этому разделу можно раз и навсегда отделаться от сомнительных предрассудков и узнать о том, как мы чувствуем запахи и вкусы, разговариваем, видим, чихаем или плачем.

Третья глава посвящена шее, которая содержит большое количество жизненно важных структур, в том числе и щитовидную железу, играет огромную роль в защите нервных путей между головным мозгом и телом. В следующем разделе — о грудной клетке — занимательно повествуется о сердце, лёгких, позвоночнике.

Задумывались ли вы когда-нибудь, какая сила позволяет нам поднимать грузы, писать, пожимать друг другу руки, виртуозно играть на музыкальных инструментах? Разумеется, ловкость и тонкая моторика верхних конечностей, речь о которых пойдёт в пятой главе, где особое внимание уделено источникам различных манипуляций и тактильной информации — рукам.

Потребляя пищу, мы редко до конца осознаём, как же она расщепляется, усваивается и используется организмом. В главе про живот и желудок раскрываются секреты функционирования брюшной полости, самой большой в нашем теле. Авторы энциклопедии предлагают побеседовать о важности сбалансированного питания, богатого витаминами, минералами, белками, жирами и углеводами. Ведь именно здоровый рацион играет главную роль в предотвращении заболеваний и поддержании необходимого нам уровня энергии.

Анатомия и физиология ребёнка, превратившегося во взрослого, необратимо меняются — об этом говорится в главе о женской и мужской репродуктивных системах, а также о продолжении жизни, то есть родах.

Поддерживать равновесие, уверенно стоять на двух ногах, выбирать ту или иную позицию тела нам помогают нижние конечности и таз, мощные мышцы, кости и соединяющие их суставы, информация о которых размещена в восьмой главе.

«Кровь, циркулирующая по телу, снабжает органы и ткани всеми необходимыми для жизни элементами — кислородом, питательными веществами, гормонами, забирая продукты распада, которые затем выводятся из организма», — утверждается в предисловии к девятому разделу. Здесь, кроме обзора системы кровообращения, рассматриваются жизненно важные механизмы контроля над артериальным давлением и особенности свёртывания крови.

Человеческое тело сравнивается в энциклопедии с невероятно сложной машиной, которая состоит из различных систем, выполняющих определённую уникальную функцию, обеспечивая жизнедеятельность организма как единого целого. Так, десятая глава повествует о скелете в целом, отдельных костях, мышцах, суставах, коже, ногтях, волосах, лимфе и нервах.

Строение и химический состав клеток, мельчайших единиц и строительных блоков организма, стали темой одиннадцатого раздела, где особый интерес вызывают статьи о генах и наследственных аномалиях.

Завершает издание рассказ о биологических ритмах, а также факторах, нарушающих равновесие нормальной жизни: от субстанций, которые вызывают аллергию, до алкоголя, сигарет, стрессов. Авторы книги напоминают, что у каждого из нас есть врождённые механизмы, помогающие бороться с губительным влиянием внешней среды и восстанавливать здоровый баланс. Но надеяться только на них нельзя, потому что главное — это осознанное стремление быть здоровым.

«Самый полный атлас по анатомии и физиологии» сочетает в себе преимущества богато иллюстрированной энциклопедии, учебника для школьников, решивших связать свою жизнь с медициной, и справочника для студентов, начинающих врачей. Книга является хорошим учителем, помогающим постигать самую сложную науку — жизнь.

**Мария ВОЙТИК**

# Любовь к себе — не эгоизм!

Способность дарить нежность и доброту, отдавать и прощать заложена в женщинах от природы. Но не каждая умеет по-настоящему ценить и понимать себя. Прислушайтесь к своему телу, полюбите его, научитесь беречь, почувствуйте, наконец, свою энергию, забыв про страхи, неудачи и сомнения! Именно так звучит главный рецепт счастья от женщины, сумевшей победить тяжёлую болезнь и стать известным психологом, автором популярных книг о женском здоровье.




Новая работа Татьяны Дугельной «Быть женщиной счастливой и здоровой. Начни исцеление с себя», вышедшая в «Издательстве АСТ» при поддержке ООО «Харвест», вызывает противоречивые эмоции, однако содержит массу полезного и является неплохим руководством к действию для тех, кто решил начать новую жизнь.

С первых же строк отвлекаешься от повседневной суеты, бесконечных уборок, стирок, скандалов, проблем на работе и, уединившись, ведёшь беседу со своим внутренним миром, прислушиваешься к «сигналам», которые посылает организм. Многие женщины жалуются, что они слишком рано стареют, быстро расстаются с мужчинами, терпят неудачи на работе. Разумеется, можно обвинить обстоятельства или судьбу, но зачастую проблема кроется в них самих.

Самосовершенствоваться, открывать новое в себе и окружающих нужно всю жизнь. Именно на такие размышления наводит книга Татьяны Дугельной. Какой бы низкой ни была самооценка, нет сомнений, что после прочтения хотя бы десяти-двадцати страниц вы почувствуете себя богиней.

Звучит сомнительно? «Зная и понимая то, как мы устроены, можно избежать многих болезней и обрести полную гармонию с партнёром», — утверждает психолог. Да, это известная истина, да ведь она гениальна! Ни одна женщина не сможет стать по-настоящему красивой и успешной, если не научится сохранять своё здоровье, следить за самочувствием и вовремя принимать меры по устранению симптомов заболеваний.

Книга «Быть женщиной счастливой и здоровой. Начни исцеление с себя» не является медицинской энциклопедией и не содержит конкретных рекомендаций, она лишь настраивает сознание на оптимистичный лад, помогает обрести уверенность в себе.

Татьяна Дугельная просто поверила в чудо, убедившись в том, что негативная оценка реальности приводит к несчастьям, а положительные психосоматические установки способствуют выздоровлению. В психологии это не новость, но, к сожалению, мало кто следует этому принципу. Заслуга автора в том, что она сумела доступно объяснить и чётко аргументировать, что фраза «Я смогу!» действует сильнее даже самых дорогих лекарств.

«Наш организм способен сохранять здоровье долгие годы, если мы слышим знаки тела и подсказки подсознания», — объясняет писательница. Вы знали об этом? Так почему до сих пор не научились понимать себя с полуслова?

Переходя от личных рассуждений к конкретным фактам, Татьяна Дугельная подробно рассказывает о важнейших жизненных процессах организма женщины. Не оставила в стороне психолог и аспекты репродуктивной системы. Логическим продолжением темы стал раздел о сексуальном здоровье как гарантии гармоничных отношений мужчины и женщины.

Отдельная глава книги посвящена советам по ведению здорового образа жизни во всех его аспектах: физическом, психическом, социальном. Важную информацию содержит также раздел о психотравмах и психокомплексах как отражении истинных заболеваний человека. А вот статьи о том, из каких компонентов состоит женское счастье и чего представительницы прекрасного пола боятся, выглядят суховато и упрощённо.

Не только тело, но и душа стали объектом внимания психолога. Во второй половине своей работы Татьяна Дугельная открывает читательницам сакральные тайны их существования, смешивая эзотерику с выдержками из мировых духовных практик. Впечатление от книги остаётся двояким. С одной стороны, нужной информации в ней достаточно, энергетика автора действительно творит чудеса, настраивает на светлый и добрый лад. Но с другой — не стоит прочитать издание от «А» до «Я» за один день: это всё равно что охватить космос и прийти не к гармонии, а к хаосу.

**Мария ВОЙТИК**

# Даўжэй за век…


Фота Яўгена Пясецкага

Анатоль Шаркоў з картай воінскіх пахаванняў Першай сусветнай вайны.

«Сотні тысяч воінаў рускай арміі, у тым ліку і беларусаў, самаахвярна абараняючы сваю Радзіму, сваю зямлю, загінулі ў баях той вайны, знайшоўшы вечны спакой у беларускай зямельцы. Шмат хто, застаўшыся ў жывых, пакінуў свой след у ваеннай гісторыі. У адных акопах Першай сусветнай пад Смаргонню ваявалі будучыя Маршалы Савецкага Саюза: палкоўнік Барыс Шапашнікаў і 17-гадовы падносчык патронаў Радзівон Маліноўскі, унтэр-афіцэр Сцяпан Красоўскі, які стаў затым маршалам авіяцыі, падпаручнік Валянцін Катаеў, будучы знакаміты пісьменнік, афіцэры Антон Дзянікін і Аляксандр Куцепаў, якія пасля 1917 года сталі вядомымі генераламі і лідарамі Белага руху… Вельмі важна, што раней забытыя магілы вяртаюць нас да вытокаў памяці пра загінуўшых абаронцаў Айчыны. Важна, што робіцца гэта як на дзяржаўным узроўні, так і энтузіястамі, грамадскімі арганізацыямі», — піша ў прадмове да кнігі «Апошні прытулак салдата» намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Анатоль Тозік.

Да кнігі, якую ўжо адразу пасля выхаду ў свет можна лічыць унікальнай і разам з тым даволі простай па сваёй дакументальнай і мастацка-публіцыстычнай канструкцыі. У рабоце над ёмістым томам «Апошні прытулак салдата» паядналіся чатыры захопленыя тэмай даследчыкі. Анатоль Шаркоў, Вячаслаў Селяменеў, Юрый Бясцвіцкі, Алена Харашэвіч стварылі адзіны аўтарскі калектыў, каб распавесці пра месца захаванняў аўстра-венгерскіх, нямецкіх і расійскіх вайскоўцаў часоў Першай сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі, у Брэсцкай, Віцебскай і Мінскай абласцях — у тых раёнах, дзе якраз і праходзіла лінія руска-нямецкага фронту.

Унікальнасць строга дакументальнага тэкставага і ілюстрацыйнага аповеду заключаецца ў тым, што цяпер у нашай краіне вядомыя адрасы захаванняў, яны даступныя кожнаму, хто захоча дакрануцца да памяці нашых продкаў. Адкрываем кнігу, напрыклад, на старонках пра Смаргонскі раён, — і адпраўляемся ў сапраўднае гісторыка-краязнаўчае падарожжа. У вёсцы Белая — помнік ахвярам Першай і Другой сусветных войнаў. Вядома, што тут было некалькі вайсковых могілак, але захаваліся толькі адны.

Баярск — два рускія захаванні. На мясцовасці добра праглядаюцца бугаркі ад некалькіх брацкіх магіл. Вайневічы — нямецкае захаванне. У цэнтры ўсталяваны каменны крыж у выглядзе стэлы з нямецкім арлом, які раскінуў крылы. Вайстом — нямецкае захаванне, магілы праглядаюцца, захаваліся бетонныя надмагільныя крыжы з надпісамі. Калпея — захаванне рускае і нямецкае. Разварушана «чорнымі капальнікамі» (і такая з'ява, на вялікі жаль, уласцівая нашаму грамадству). Мясцовыя жыхары і краязнаўцы са Смаргоні сабралі раскіданыя па лесе крыжы і склалі іх разам. Як вынік — своеасаблівы агульны помнік, складзены з крыжоў, якія некалі стаялі кожны на асобнай магіле. Надпісы сведчаць: тут знайшлі супакой рускія і немецкія салдаты.

— Тэма стану захоўванняў загінуўшых у вогненным полымі вайны мне ўяўляецца асабліва значнай для выхавання грамадства ў цэлым, — дзеліцца развагамі адзін з аўтараў праекта, доктар гістарычных навук Анатоль Шаркоў. — У Савецкім Саюзе Першая сусветная называлася «імперыялістычнай» і ўсе загінуўшыя ў гады гэтай вайны лічыліся проста ахвярамі ў параўнанні з гераізмам і ахвярамі Грамадзянскай і Вялікай Айчыннай вайнаў. У 1920-я гады была ажыццёўлена буйная міжнародная акцыя па ўладкаванні і ўзнаўленні захаванняў Першай сусветнай… На могілках, у якіх бы дзяржавах яны ні знаходзіліся, індывідуальныя крыжы замяняліся тыповымі надмагіллямі двух відаў — плоскімі гарызантальнымі плітамі ў выглядзе стылізаванага крыжа




альбо вертыкальнымі бетоннымі крыжамі.

Але гэтыя мерапрыемствы не закранулі тэрыторыю БССР, дзе падобныя работы зусім не праводзіліся. І толькі з канца 1980-х аднаўленне захаванняў Першай сусветнай пачалося па ўсёй Беларусі. Вялікая роля ў гэтым належыць энтузіястам, мясцовым краязнаўцам. Асаблівы прыклад такога старання — падзвіжніцтва Барыса Цітовіча. У Вілейскім раёне, у вёсцы Заброддзе, ён сваімі рукамі ўзнавіў шпітальныя могілкі рускіх салдат. Усталяваў помнік казаку расійскай арміі Данілу Шаўчэнку, які загінуў ад кулі нямецкага снайпера. Прывёў у парадак захаванне ў вёсцы Жарсцвянка. У 2003-м Барыс Цітовіч сваімі рукамі зрабіў і ўсталяваў помнік-крыж на месцы былых могілак ля вёскі Рускае Сяло. Невыпадкова Заброддзе сёння выклікае асаблівую турыстычную цікаўнасць. Сюды ледзьве не штодня едуць школьнікі, моладзь. Па святочных днях штораз збіраецца больш як тысяча чалавек. Не было б той работы, якой на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў займаецца мастак і краязнаўца Барыс Цітовіч, мажліва, і сёння мала хто ведаў бы пра падзеі ў ваколіцах Заброддзя, зусім паблізу ад Вілейкі. Такая грамадская ініцыятыва дарагога каштуе!

Няма ніякіх сумненняў, што кніга «Апошні прытулак салдата» толькі пашырыць грамадскую ініцыятыву ў справе зберажэння гістарычнай, духоўнай памяці. У творчага праекта, які Выдавецкі дом «Звязда» пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь аформіў кнігай, — вялікая будучыня. Ён нарадзіўся як добрая праваслаўная ініцыятыва. Невыпадкова аўтарам адной з прадмоў да кнігі з'яўляецца настаяцель Усіхсвяцкага прыхода горада Мінска протаіерэй Фёдар Поўны. Вялікая будучыня — яшчэ і таму, што работа па ўзнаўленні гістарычнай памяці з'яўляецца задачай на ўсе часы. «…толькі гістарычная памяць, — гаворыць Фёдар Поўны, — здольная працягвацца даўжэй за стагоддзе. Яна будзе нас трывожыць і пастаянна вяртаць да ўшанавання ахвяр Першай сусветнай вайны. Без перабольшвання, лінія фронту, якая праходзіла стагоддзе таму па Заходняй Беларусі — суцэльныя брацкія могілкі. У іх — мільёны праваслаўных з крыжамі пад нацельныя кашулямі. Толькі вось парадокс гісторыі і часу: згінулі мільёны, а могілкі можна на пальцах пералічыць. І таму глыбіня трагедыі маштабнейшая, а боль яшчэ мацнейшы…»

Несумненна, у працы, распачатай А. Шарковым, В. Селяменевым, Ю. Бясцвіцкім, А. Харашэвіч, будзе працяг. І, магчыма, не толькі ў выглядзе кніг, даведнікаў, а найперш у той краязнаўчай, асветніцкай працы, якая зварухне грамадства ў стаўленні да ахвяр і герояў Першай сусветнай.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Гісторыя (вы)творчасці

**У выдавецтве «Чатыры чвэрці» пабачыла свет кніга члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Івана Ярашэвіча «Ад школы механізацыі сельскай гаспадаркі да ліцэя».**

Не выключана, што факт яе выдання будзе заўважаны. Праўда, тыраж невялікі — 200 асобнікаў. Тэматычна кніга прывязана да адной мясцовасці і ўяўляе сабой аповед пра Смілавіцкі сельскагаспадарчы прафесійны ліцэй. Выданне, прымеркаванае да 75-годдзя з дня нараджэння гэтай навучальнай установы, стане здабыткам бібліятэк у Смілавічах і Чэрвені.

А між тым кніга, падрыхтаваная чэрвеньскім краязнаўцам Іванам Ярашэвічам, гісторыкам, захопленым жаданнем усё ведаць пра сваю родную старонку, — добрая нагода пагаварыць пра вартасці падобнай працы. Краязнаўства ў асноўным звязваюць з гісторыяй паселішчаў, прыгожага пісьменства ці ваеннымі падзеямі, жаданнем зазірнуць у мінулае археалагічных і геаграфічных аб'ектаў. Несумненна, ускосна гэта датычыцца і сістэмы адукацыі, гісторыі прадпрыемстваў. Але публікацый, якія былі б прысвечаны вытворчай гісторыі, няшмат.

Іван Ярашэвіч па крупінках узнаўляе памяць пра першыя дзесяцігоддзі існавання Смілавіцкага прафесійнага ліцэя. Раздзел «Пачатак шляху» адкрываецца старымі здымкамі, якія вяртаюць чытача ў 1938 год. Вядомае і імя першага дырэктара — Уладзімір Налівайка. У сакавіку 1939-га дырэктарам Смілавіцкай школы механізацыі сельскай гаспадаркі стаў Пётр Іваноў. Іван Ярашэвіч называе і прозвішчы першых выкладчыкаў. Збіраючы факты з гісторыі навучальнай установы, аўтар не шкадаваў часу для работы ў архівах. Згадваюцца, у прыватнасці, пасяджэнні бюро Мінскага абкама КП(б)Б, бюро Рудзенскага райкама КП(б)Б.

Раней Смілавічы ўваходзілі ў Рудзенскі раён. Адзін з першых выпускнікоў школы — Герой Савецкага Саюза Вітольд Гінтаўт. На рахунку адважнага танкіста — 17 знішчаных танкаў. Яго імем названа вуліца ў Мінску. Са шматлікімі ўзнагародамі вярнуўся з вайны інструктар Сцяпан Дыба. Віктар Багамолаў абараняў Ленінград, сустрэў Перамогу ў Чэхаславакіі. Двума ордэнамі Славы быў узнагароджаны зампаліт вучылішча Валянцін Рухлоў.

Сярод выпускнікоў вучылішча — воін-афганец Яўген Мядзведзеў. З вайны не вярнуўся, яго імем названа вуліца ў Смілавічах. Выпрабаванне Афганістанам прайшоў і Васіль Піліпенка, цяпер — настаяцель храма ў Жлобіне. У розныя гады ў Смілавіцкім ліцэі вучыліся спецыялісты з Афганістана. Выкладчыкі вучылішча, ліцэя працавалі ў Кітаі, Анголе, Афганістане, Манголіі, Лівіі.

Кніга пра Смілавіцкі ліцэй — добры падарунак усім, хто цікавіцца чэрвеньскім краязнаўствам, хто звязаны лёсам са Смілавічамі і Чэрвенем.

Праца І. Ярашэвіча паказвае публіцыстычна-краязнаўчыя намаганні пісьменніцкай грамады ў даследаванні гісторыі навучальных устаноў, прадпрыемстваў прамысловасці і сельскай гаспадаркі. І ў краязнаўстве, і ў публіцыстыцы варта ўспомніць тых, хто самаахвярна, напружана працуе ў галінах народнай гаспадаркі. Мы мала ведаем пра герояў, якіх краіна ўслаўляе падчас «Дажынак». Іх плён павінен быць не толькі прадметам увагі газетных артыкулаў. Вытворчая гісторыя, калі ёю занятца ўсур'ёз, — цікавы для пісьменніка, краязнаўцы занятак. Іван Ярашэвіч паказаў у гэтым кірунку добры прыклад.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Убачыць прыроду па-новаму

**З самага маленства мы чуем, што чалавек — частка прыроды. Аднак ці ўплывае гэты факт на паводзіны людзей? Адносіны чалавецтва і прыроды зусім не падобныя на стасункі паміж маці і дзіцем. Як спыніць знішчэнне нашай стваральніцы? Адказ відавочны: выхоўваць людзей, якія не будуць займацца самазнішчэннем.**

Кніга Ніны Мацвіла «Апошняя навальніца: нявыдуманыя апавяданні пра прыроду і жывёл» — прыклад таго, як трэба адчуваць навакольны свет — цэлы сусвет, напоўнены розумам і прыгажосцю. Расповеды пра жывёл і прыроду прасякнуты светлымі пачуццямі, якія імгненна перадаюцца чытачам. Форма падачы матэрыялу непасрэдная і лёгкая, дазваляе нібы пабачыць усё на ўласныя вочы, прымушае суперажываць маленькім героям.

Невялікі зборнік прыйдзецца даспадобы як дзецям, так і дарослым. На прыкладзе з асабістага жыцця аўтар распавядае нам пра незвычайнасць і багацце прыроды, яе непаўторнасць, каштоўнасць кожнай жывёлы, насякомага, дрэва, зёлкі. Пісьменніца імкнецца выхаваць у дзецях павагу да навакольнага свету, жаданне зберагчы, спазнаць яго. Кнігу прыемна гартаць і трымаць у руках, памеры дазваляюць насіць яе з сабой і чытаць дзе заўгодна, а малюнкі цудоўна аздабляюць змест кожнага з апавяданняў.

**Настасся ЖЫЛКО**

# Дванаццаць фрагментаў свята

**Урачыстае адкрыццё арт-праекта сучасных латвійскіх мастакоў «Самы вялікі хор у свеце» адбылося ў Цэнтры сучасных мастацтваў.**

Ініцыятыва правядзення выстаўкі, якая прадстаўляе Рыгу як культурную сталіцу Еўропы 2014 года, належыць Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму Паслу Латвіі ў Беларусі Міхаілу Папкоусу.

«Самы вялікі хор у свеце» — арт-праект Акадэміі мастацтваў Латвіі, рэалізацыя якога стала вынікам супрацоўніцтва з Міністэрствам замежных спраў Латвійскай Рэспублікі і Фондам «Рыга 2014». Арганізатары меркавалі стварыць маштабнае палатно, дзе адлюстравана нацыянальнае свята песні і танца Латвіі, якое адзначаецца ўжо больш як 100 гадоў.

Аўтар аднаго з 12 фрагментаў палатна, выкладчык Акадэміі мастацтваў Літвы Крысціян Брэктэ распавёў, як праходзіць нацыянальнае свята песні і танца. Фэсту папярэднічае адбор спевакоў і танцораў з розных частак краіны. Прыгожыя сольныя спевы — зусім не гарантыя таго, што можна патрапіць у хор: кожны жадаючы павінен пераадолець конкурсны адбор. Пасля — абавязковыя рэпетыцыі.

Гэта захапляльнае відовішча, калі на адной з пляцовак дзясяткі тысяч чалавек у нацыянальных строях хорам співаюць песню, на іншай — выконваюць латвійскія нацыянальныя танцы. Эмоцыі захапляюць! Яны адчуваюцца ў карцінах аўтараў праекта — рэктара Акадэміі мастацтваў Літвы прафесара Аляксея Навумава, прарэктара Крыстапса Зарынса, выкладчыкаў і студэнтаў.

Напачатку праект быў эксперыментальным. Сёння палатно шырынёй 22 метры набыло сусветную папулярнасць. Шырокафарматная карціна, створаная ў 2008 годзе, ужо пабывала ў выставачных залах Францыі, Японіі, Швецыі, Туркменістана ды іншых краін свету.

**Вікторыя ГАБРУСЕВІЧ**



*Фрагмент палатна. Работа Лауры Векмане.*

# Натхнёны Венецыяй

**Выстаўка жывапісу «Сады» мастака, архітэктара, дацэнта кафедры інтэр'ера і абсталявання Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхаіла Шыкава адкрылася ў малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва.**

М. Шыкаў — архітэктар Беларускага павільёна на 54-м біенале сучаснага мастацтва ў Венецыі. У красавіку яго работы экспанаваліся на выстаўцы сучаснага мастацтва «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта». А гэтым разам наведвальнікі пабачылі творчасць аўтара ў новым ракурсе: крыніцай натхнення для яго стала Венецыя. Атрымалася рэтраспектыва Венецыянскага біенале, звязаных з ім успамінаў і асацыяцый. Паводле аўтара, прадстаўленыя карціны — спроба паказаць, што свет не такі ўжо і вялікі: тыя ж фарбы, тыя ж тоны сустракаюцца і ў Венецыі, і ў Беларусі, і ў іншых краінах.

Выстаўку складаюць палотны, напісаныя за апошнія два гады. Сярод іх — «Прычал "Сады"», «Прычал «Новы арсенал»», «Сады», а таксама «Белы параход», «Мангравы сад», «Бузіна», «Садова-паркавая» ды іншыя.

На вернісажы дзяліліся меркаваннямі сябры, знаёмыя мастака, аматары жывапісу. Высока ацанілі творчасць беларускага аўтара італьянскія госці, уражаныя тым, што менавіта іх краіна натхніла М. Шыкава на стварэнне карцін.

**Святлана МАСЛАВА**



*«Белы параход».*



*«Бузіна».*



*Яўген Жылік «Восень. Рэчка пад Раўбічамі».*

# Час на графічных палотнах

**Выстаўка «Плынь часу», на якой прадстаўлена больш як 70 графічных твораў мастакоў-юбіляраў 2014 года, праходзіць у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Экспазіцыя, якая аб'ядноўвае звыш 30 аўтараў, падобна да хору з мноства галасоў.**



*Уладзімір Садзік «Парк узімку».*

Карціна Яўгена Жыліна «Восень. Рэчка над Раўбічамі», вытканая з буйных і мяккіх мазкоў, якія пераліваюцца ўсімі адценнямі дажджлівай пары, настолькі жывая, што, здаецца, яшчэ імгненне — і выйдзе з «берагоў» палатна. Грозныя дрэвы ў чаканні навальніцы і тонка перададзенае мастаком адлюстраванне неба на вадзе яшчэ больш узмацняюць рэалістычны эфект. Пётр Свентахоўскі, у сваю чаргу, у рабоце «Лодкі, якія гарэлі» ўмела гуляе з кантрастам — счарнелыя ад агню судны ляжаць на сонечным пяску, але пры гэтым выклікаюць не сум, а толькі ледзь прыкметную меланхолію.

Яшчэ больш вытанчаным і лірычным уяўляецца палатно Мікалая Рыжыкава «Дождж». Здаецца, звычайны і нязмушаны сюжэт — стагі сена, драўляны плот, дамы ў карычнявата-шэрай смузе. Але пейзаж ахутвае гледача з ног да галавы, цягне ў сваю прастору. У абсалютна іншай манеры, строгай і дакладнай, выканана палатно Анатоля Зайцава «Партрэт Л. Стрыгалёва», якое можна назваць чорна-белым геаметрычным увасабленнем дасканаласці. «Парк узімку» Уладзіміра Садзіна таксама будуецца пераважна на роўных лініях, але ў ім больш цяпла — на заднім плане бачная фігура маці, якая вядзе за руку дзіця.

Тэатральнасць і элегантную арыгінальнасць дэманструе мастак Сяргей Балянок. У яго карціне «Ішоў вялізны снег» чалавек намаляваны схематычна, амаль без рыс твару, ён быццам заблукаў у завеі, збіўся з ног, страціў сябе. «Блюз жалезнага даху» гэтага ж аўтара пагружае ў атмасферу лёгкага сюррэалізму. З верхняй часткай дома на карціне адбываецца неверагоднае: на даху растуць дрэвы, па ім ходзяць людзі, а на небе замест зорак — электрычныя лямпы. Сэнс вельмі тонкі, індывідуальны, але так ці інакш звязаны са свабодай, вызваленнем чалавека з-пад улады чатырох цагляных сцен, яго жаданнем стаць вольным, як птушка.

Захапляе рознабаковая мастакоўская інтэрпрэтацыя жыцця, светапогляд, часам супрацьлеглы, бо работы ствараліся на працягу цэлага стагоддзя! Многія палотны напісаны ў эпоху сацыялістычнага рэалізму, калі панавала ўзвышанае ўспрыманне рэальнасці, надзея на лепшае. Так выглядае, напрыклад, «Партрэт Галі Аляксеенка, будаўніцы» Людмілы Воранавай ці «Пакарыцелі неба» Яўгена Жыліна, дзе палову палатна займае ўсмешлівая дзяўчынка, а астатнюю частку — рамантычныя выявы касманаўтаў і парашутыстаў.

Творы тыражнай і арыгінальнай графікі ўсіх удзельнікаў выстаўкі, выкананыя ў тэхніцы не толькі акварэлі, але і ксілаграфіі, манатыпіі, лінарыту, афорту, увогуле варты асобных расповедаў.

На экспазіцыі можна пабачыць творы Яфіма Мініна, Роберта Геніна, Фёдара Фогта, Мікалая Гурло, Сяргея Раманава, Генадзя Галубовіча, Леаніда Анцімонава, Міхаіла Раманюка, Васіля Шаранговіча, Уладзіміра Пашчасцева, Генадзя Шутава, Міхаіла Барздыкі, Камала Каміля, Канстанціна Куксо і іншых.

Выстаўкі мастакоў-юбіляраў сталі традыцыяй музея і праходзяць ужо ў восьмы раз, бо гэта добрая нагода ўспомніць творцаў, вядомых і пачаткоўцаў, пабачыць работы, якія, магчыма, гадамі захоўваліся ўбаку ад вачэй наведвальнікаў. «Кожная работа па-свойму ўнікальная, але на выстаўцы яны гучаць ва ўнісон і ў той жа час самадастаткова. Мы пастараліся сабраць лепшыя карціны са спадчыны кожнага мастака, — распавяла куратар экспазіцыі, вядучы навуковы супрацоўнік аддзела сучаснага беларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Валянціна Вайцэхоўская.

Выстаўка «Плынь часу» дае магчымасць асэнсаваць мінулае і дазваляе калі не ўбачыць, то адчуць, усвядоміць подых будучыні.

**Марыя ВОЙЦІК**

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Аляксандр Камінскі, даследчык гісторыі роднай зямлі з Крэва, распавядае пра знакамітых асоб, якія волею лёсу аказаліся на так званых крэўскіх пазіцыях падчас Першай сусветнай вайны:**

— У пачатку мая 1915 года, аб'язджаючы паўночна-ўсходнія часткі сваёй епархіі, наведаў Крэва архіепіскап Літоўскі і Віленскі Ціхан, будучы патрыярх. Вайна — у разгары, лінія фронту набліжалася да нашых земляў, таму падтрымка і настаўленні з боку духоўнага лідара аказаліся для мясцовага насельніцтва вельмі дарэчы.

Тут можна было сустрэць генералаў Антона Дзянікіна, які пазней стаў адным з кіраўнікоў белагвардзейскага руху ў Расіі, і Юзафа Доўбар-Мусніцкага, будучага камандуючага 1-м польскім корпусам, удзельнікам Вялікапольскага паўстання супраць Германіі. Першы ў той час з'яўляўся галоўнакамандуючым Заходнім фронтам, другі — камандзірам 38-га армейскага корпуса. Менавіта Доўбар-Мусніцкаму давялося прыкласці руку да разбурэння Крэўскага замка, які служыў ключом нямецкіх пазіцый. І калі падчас ліпеньскай аперацыі 1917-га паступіў загад біць па ім з гармат, генерал выканаў задачу без кроплі шкадавання.

Змаганні на тутэйшых палях сталі зыходным пунктам у развіцці кар'еры некаторых вядомых савецкіх ваенных дзеячаў. Восенню 1915 года ў складзе 6-га Фінляндскага палка тут змагаўся падпаручнік Уладзімір Трыяндафілаў, грэк па нацыянальнасці. Пасля ён уступіў у Чырвоную Армію, ваяваў супраць Дутава, Дзянікіна, Урангеля. Яго лічылі «бацькам савецкага аператыўнага мастацтва». Ідэі Трыяндафілава паспяхова выкарысталі ў аперацыі па разгроме японскіх войскаў каля ракі Халхін-Гол у 1939-м.

Нельга не згадаць імя Марыі Бачкаровай, славутай «расійскай Жанны д'Арк», як называлі яе ў тагачаснай прэсе, адзінай жанчыны, якая з'яўлялася поўным Георгіеўскім кавалерам. Стварыўшы «Першую жаночую ваенную каманду смерці», яна апынулася са сваімі падначаленымі пад Крэвам, у самым пекле гарачых ліпеньскіх баёў 1917 года.

Ваяваў у нашых мясцінах і пісьменнік Аляксандр Лебядзенка. Са старонак яго рамана «Цяжкі дывізіён» паўстае панарама Крэва, пакалечанага працяглым знаходжаннем пад шквалам агню і металу. Карціны вайны ў кнізе — не фантазіі, а рэальныя эпізоды з памяці аўтара.

Сведкай аднаго жорсткага бою, які разгарэўся на крэўскіх пагорках, была дачка Льва Талстога Аляксандра, якая знаходзілася тут па справах забеспячэння войска харчаваннем. У сваіх успамінах яна перадае атмасферу падчас бою: «Пад Крэвам быў сканцэнтраваны кулак супраць немцаў. Яблыку не было дзе ўпасці. У кожным пералеску — батарэі, войскі... Я ніколі не бачыла такога артылерыйскага бою. Размаўляць было немагчыма, у вушах стаяў гул. Падвозілі ўсё новыя і новыя снарады, разрываліся гарматы...»

Франтавыя дарогі Першай сусветнай прывялі ў нашы мясціны і пісьменніка Міхаіла Зошчанку. Сведчаннем таго, што ён бываў у Крэве, з'яўляецца яго апавяданне «Вікторыя Казіміраўна». Ва ўласцівай славутаму сатырыку манеры апісваюцца прыгоды расійскага салдата Назара Сінябрухава на пазіцыях, што праляглі праз Крэва, расказваецца пра яго стасункі з мясцовымі жыхарамі, якія заставаліся ў месцах баявых дзеянняў. У 1923 годзе апавяданне было апублікавана ў бельгійскім часопісе і стала першым перакладам савецкай прозы, надрукаваным у Заходняй Еўропе.

З нямецкага боку на крэўскіх пазіцыях часоў Першай сусветнай давялося пабываць будучаму пісьменніку Эрнсту Віхерту. Хоць і атрымаў ён пасля аднаго з баёў Жалезны крыж II ступені, да вайны ставіўся з агідай і непрыманнем. Гэта адлюстравана ў яго творах, лістах і ўспамінах.

*Музейны ўнікат*

# Цукеркі побач з кулямі

Міжнародная выстаўка «Рэчы паміж жыццём і смерцю» з Музея Арміі ў Стакгольме экспануецца ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі. Калекцыя ўнікальнага ваеннага антыкварыяту з розных краін, сярод якіх ЗША, Японія, Швецыя, Вялікабрытанія, Расія, Францыя, ахоплівае часы пераважна Першай і Другой сусветнай войнаў.



*Фота Раісы Марчук. Калаж Віктара Калініна.*

Экспазіцыя, на дзіва, уключае ў сябе не зброю і браню — адвечныя складнікі баявых дзеянняў, — а створана з мірных паўсядзённых рэчаў, неабходных для салдацкага жыцця.

Выстаўка распавядае пра тое, што звычайна носяць у кішэнях воіны, незалежна ад іх нацыянальнасці і часу. Сярод больш як 1000 экспанатаў можна ўбачыць, напрыклад, разнастайны посуд — лыжкі, відэльцы, кубкі, талеркі, кацялкі, цэлы набор біклажак для вады.

Прыцягваюць увагу яркія, нягледзячы на выпрабаванне часам, бутэлькі, бляшанкі і папяровыя пакункі з прадуктамі, дзе захоўваліся жавальная гумка, соль, цукар, гарбата, кава, цукеркі, шакалад і нават Coca-Cola. Зразумела, аўтары калекцыі не пакінулі ў баку і самае неабходнае для байцоў — лекі. Не менш салідна выглядаюць на стэндах прадметы для бавлення часу і паляпшэння настрою — ігральныя карты, косці і кубікі, лато, даміно, маджонг, шашкі, мячыкі для бейсбола, музычныя інструменты, у тым ліку скрыпка і банджа.

Побач, пад музейным шклом, размяшчаюцца друкаваныя выданні, пісьмовыя прылады, фотаздымкі, карты, брашуры з рэцэптамі, грошы — ад нямецкіх марак да італьянскіх лір. Асобны стэнд займаюць тэхнічныя прыстасаванні, карысныя ў побыце: палявая рыдлёўка, кірка, мачэтэ, кусачкі, піла. А ўжо праз некалькі крокаў наведвальнікаў чакае цэлы набор лямп, запалак і ліхтарыкаў на любы густ. Ну і, канечне, як можна ўявіць салдата без цыгарэт і запалак?

— Выстаўка «Рэчы паміж жыццём і смерцю» ўпершыню была прадстаўлена ў Стакгольме ў 2010 годзе, пабывала ў Нарвегіі, Бельгіі, Польшчы, а цяпер прыехала ў Беларусь, — паведаміў Часовы паверааны ў справах Швецыі ў Беларусі Марцін Оберг.

Куратар выстаўкі Уле Вестэрберг падкрэсліў, што тэма экспазіцыі аб'ядноўвае салдат з усяго свету і мы бачым: і ў мірныя часы, і на вайне чалавек застаецца чалавекам.

Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў, у сваю чаргу, падкрэсліў, што выстаўка набывае асаблівую значнасць у час, калі ў краіне святкуецца 70-годдзе перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі, а ў стасунках паміж дзяржавамі, пакаленнямі людзей з'явілася не толькі эмацыянальнае, але і рацыянальнае асэнсаванне таго, што адбывалася ў ваенныя гады.

«Расказваць пра вайну можна, не выкарыстоўваючы зброю і ўніформу, і экспазіцыя ў гэтым плане з'яўляецца добрым прыкладам», — дадаў спадар міністр. Паводле яго слоў, гэты міжнародны праект сведчыць яшчэ і пра тое, што культурнае супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Швецыяй набывае новыя кірункі ўзаемадзеяння.

Выстаўка «Рэчы паміж жыццём і смерцю», якую ўжо ацанілі жыхары Гродна, а цяпер і Мінска, накіруецца далей у падарожжа па нашай краіне — у Гомель, Брэст, Магілёў.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Лічба не канчатковая

Унікальны гістарыяграфічны дакумент з'явіўся ў айчыннай картаграфіі. «Белкартаграфія» выпусціла «Карту вайсковых пахаванняў Першай сусветнай вайны».

Упершыню на карту Беларусі нанесены агульныя і індывідуальныя захаванні, брацкія магілы, памятныя мясціны з магчымымі могілкамі, мясціны былых захаванняў і перазахаванняў. Пазначана і іх нацыянальная прыналежнасць: аўстрыйскія, нямецкія, рускія, мусульманскія, інтэрнацыянальныя. Адзначаны стан: дагледжаныя, раскапаныя, закінутыя.

Бяры ў рукі карту — і выпраўляйся ў гісторыка-краязнаўчае падарожжа. Назвы паселішчаў нанесены не толькі па-руску, але і па-нямецку. На зваротным баку карты — здымкі з невялікімі тлумачальнымі тэкстамі. Ёсць у выданні і невялікі тэкст агляднага характару пра падзеі Першай сусветнай вайны ў Беларусі. Аўтар — доктар гістарычных навук Анатоль Шаркоў. Навуковымі кансультантамі выступілі Уладзімір Адамушка, Вячаслаў Селяменеў.

— Гісторыя ўвагі да могілак Першай сусветнай на тэрыторыі нашай краіны складаецца з некалькіх этапаў, — распавёў Анатоль Шаркоў. — Магілы ўвогуле маглі б згубіцца, знікнуць у цянётах чалавечай памяці. Усё ж вайна была, як прызвычаіліся яе характарызаваць, імперыялістычнай, несправядлівай. Больш значылі ахвяры іншых войнаў: грамадзянскай, Вялікай Айчыннай… У 1920-я гады пачалася буйная міжнародная кампанія па ўладкаванні і абнаўленні захаванняў Першай сусветнай вайны. Работа працягвалася да 1939-га. На могілках драўляныя крыжы замянілі тыповымі надмагіллямі — плоскімі плітамі ў форме стылізаванага крыжа альбо вертыкальнымі бетоннымі крыжамі.

— А наколькі шырокай была геаграфія рэалізацыі гэтага праекта? — пытаюся ў Анатоля Васільевіча.

— Мемарыялізацыя, упарадкаванне праводзіліся на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая ўваходзіла тады ў склад Польшчы. На тэрыторыі БССР такія работы не ажыццяўляліся. І ў гэтым адна з прычын таго, што абсалютная большасць могілак тылавой зоны расійскай арміі беззваротна страчана.

Новы перыяд узнаўлення воінскіх пахаванняў пачаўся з канца 1980-х гадоў. Шмат было зроблена па ініцыятыве мясцовых жыхароў, грамадскіх арганізацый. У многіх рэгіёнах аказалі падтрымку мясцовыя ўлады. У пачатку 1990-х быў створаны Беларускі рэспубліканскі грамадскі арганізацыйны камітэт па ўшанаванні памяці салдат Першай сусветнай вайны.

Спрыяе гэтай рабоце і Народны Саюз Германіі. Дзякуючы агульным намаганням адноўлены і прыведзены ў парадак амаль тры з паловай дзясяткі могілак. Нямала зроблена і 52-м асобным спецыялізаваным пошукавым батальёнам Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. Вядома, што ў Брэсцкай, Віцебскай, Гродзенскай і Мінскай абласцях, па тэрыторыі якіх праходзіла лінія фронту, выяўлена 2458 месцаў захаванняў Першай сусветнай. Сярод іх — 127 — аўстра-германскіх, 69 — рускіх, 52 — змешаных. Лічба не канчатковая. Ідуць далейшыя пошукі. І карта, якая толькі што пабачыла свет, несумненна падштурхне да новых даследаванняў.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Дзённік салдата

Да 100-годдзя з пачатку Першай сусветнай вайны хацелася б успомніць аднаго з яе удзельнікаў — пухавіччаніна Луку Сямёнавіча Дуная.

Разам з яго ўнукам — Георгіем Лінскім — гартаем дзённік салдата тае далёкай вайны… Праз столькі гадоў захаваліся паперы як сведчанне даўніны — памяць аказалася на дзіва ўдзячнай. Дарэчы, і нашчадкі салдата — людзі ўдзячныя і дастойныя: акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, настаўнік, генерал-маёр, палкоўнік, кандыдат медыцынскіх навук, намеснік галоўнага ўрача стаматалагічнай паліклінікі… Але ж пра Дунаяі яго дзённік.

У 1913 годзе Лука Дунай, маючы ўжо сям'ю, дзетак і стаж службы за плячыма, закончыў Лібаўскую школу прапаршчыкаў. Да вайны заставаўся яшчэ час. На жаль, не ўсе дэталі тых месяцаў можна ўзнавіць. Але дзякуючы дзённіку (тэкст напісаны алоўкам, але і цяпер яго выразна відаць), зазірнуць у жнівень 1914-га ўсё ж магчыма. Слова — прапаршчыку Дунаю.

Чытаем у дзённіку за 2 жніўня 1914 г. (вайна пачалася 28 ліпеня): «У час пахода мы заўважылі, як над намі ляцеў вялікі гусь. А некаторыя гаварылі, што гэта журавель, а калі ўважліва прыгледзеліся, то аказалася, што гэта германскі аэраплан…» Салдаты без усялякай каманды адкрылі па ім агонь. Камандзір палка лётаў на кані паўз калону і патрабаваў спыніць стральбу. І далей: «Была нейкая дасада, што так многа выпусцілі патронаў, а аэраплан паляцеў непашкоджаным. І так з гэтага часу наша зброя пачала ўжо страляць не па мішэнях, а ў людзей».

Салдаты дайшлі да горада Сувалкі. Пяхоту размясцілі ў казармах 1-га лейб-гвардыі кавалерыйскага палка. А 4 жніўня полк, у якім служыў наш зямляк, падышоў да мяжы. Салдаты «рассыпаліся» па канаве. Афіцэры зладзілі нараду на ўзвышшы. Камандзір роты вярнуўся і аддаў загад прадоўжыць паход, цяпер — ужо на нямецкую тэрыторыю. Лука Сямёнавіч апісвае падрабязна нямецкую вёску, паказвае адрознасці ад нашага побыту. Запісвае, што на беднай зямлі, дзякуючы добрай апрацоўцы, вырасла выдатнае жыта. Выснову сваю салдат зрабіў па ржэўніку, бо жыта было ўжо скошана.

Дарога па варожым тыле працягвалася. Поруч ішлі Яраслаўскі і Серпухаўскі палкі. Паранейшаму над пешымі вайскоўцамі час ад часу кружыўся аэраплан. А 7 жніўня пачаліся першыя сапраўдныя сутычкі. З'явіліся параненыя. А пасля… «Ад 5-й роты злева прыбег веставы і далажыў, што забіты камандзір пятай роты. І рота амаль разбіта. А справа прыбегла 5 ці 6 пасыльных з патрабаваннем папоўніць запас патронаў у 6—8-й ротах…» Пачалося хаатычнае адступленне. Хваля ад выстралу артылерыйскага снарада накрыла і Луку. На шчасце, ён застаўся жывы.

Раніцай 8 жніўня ў палках пачалі падлічваць страты. Высветлілася, што ў кожнай з рот загінула па 60 — 70 чалавек. Калі лічыць, што ў кожнай роце расійскай арміі, згодна са штатным раскладам, павінна было быць 226 чалавек, то атрымліваецца, што загінула амаль трэць байцоў… У гэты ж дзень, 8 жніўня, Лука Сямёнавіч выратаваў ад гібелі артылерыйскі разлік, коні якога палі. За гэты ўчынак яго прадставілі да Георгіеўскага крыжа.

12 жніўня падышлі да горада Даркмена. Мірных жыхароў у ім ужо не было. На адной са старонак аўтар распавядае, як камандаванне дазволіла салдатам браць усё, што трэба, з абутковага і мануфактурнага магазінаў. Вось як піша Лука Дунай: «…Але я, не маючы запасной бялізны, нічога не ўзяў. Адчуваў, што мне сёння ці заўтра смерць, дык навошта…» І далей: « …тут былі сыры, масла і ўсе магчымыя салодкія рэчы, але я не мог нічога ўзяць, ані крошкі…»

У адным з паселішчаў мясцовыя жыхары адкрылі па салдатах агонь. Даваляся ўступіць у перамовы, патлумачыць, што ніякіх зверстваў не будзе. Людзі пакрысе супакойваліся, убачылі, што ім нагаворвалі на рускіх салдат — мірных жыхароў не чапаюць. І немцы ўжо самі неслі салдатам чыгункі з бульбай ды іншымі стравамі.



*Лука Дунай.*

29 жніўня аказалася ракавым для Лукі і яго аднапалчан. «З самай раніцы загрукаталі гарматы і застрачылі кулямёты…» Было многа забітых і параненых. У гэтым баі наш зямляк разам са сваімі саслужыўцамі патрапіў у палон. З часам салдат аказаўся ў згаданым Раштаце, за дзесяць кіламетраў на поўнач ад горада Бадэн-Бадэн. Пачалося жыццё ў палоне. Першы месяц выдаўся няпростым. Голад і здзекі. А 28 верасня палонным дазволілі напісаць дадому. Выдалі спецыяльныя паштоўкі. «Ніхто з нас не верыў, што нашы пісьмы патрапяць у Расію. І тым болей у родныя мясціны…» А паштоўка ўсё ж дайшла да Пухавіч. Яна, дарэчы, захавалася.

Яшчэ колькі запісаў — ужо ў палоне. 30 студзеня 1915 года: «Я атрымаў ад жонкі адразу шэсць пісьмаў». 3 лютага: «… мне выдалі 10 марак і 67 пфенінгаў. Гэта замест 5 рублёў, якія мне выслала жонка. Аддаў шэсць марак доўгу». 8 лютага: «Мне аб'явілі, што мне даслалі з дому яшчэ 15 рублёў, г. зн., 32 маркі і 2 пфенінгі, але на рукі грошай мне не выдалі».

Дзённік часоў палону дастаткова лаканічны. Лука запісвае час атрымання пасылак з дому, што ў іх знаходзіцца, вядзе французска-рускі слоўнік (пабач у палоне знаходзіліся і французы). Пададзены ў сшытку і адрасы салдат з Расіі. Ёсць запіс пра тое, дзе ў палоне знаходзіцца Васіль Сямёнавіч Дунай… Абрываецца дзённік вераснем 1917 года. У сшытку і фальклорны запіс пра змены ў Расіі: спала краіна і раптам прачнулася. Такой для Лукі Дуная з вёскі Пухавічы была Першая сусветная.

**Мікола БЕРЛЕЖ,**
**фота з хатняга архіва Георгія Лінскага**

# Краснае. На скрыжаванні

Звестак пра падзеі, якія адбываліся ў Красным падчас Першай сусветнай вайны, амаль не захавалася. Хаця з мястэчка было мабілізавана каля паловы дарослага насельніцтва. Больш як мільён беларусаў, а гэта кожны пяты, не вярнулася з той вайны. Шмат было пакалечана. Верагодна, статыстыка датычыла і красненцаў.

На жаль, праз столькі часу і ў архівах захавалася небагата дакументаў. Але падчас пошукаў удалося ўстанавіць імёны салдат, якія пахаваныя ў нашым мястэчку. Ды дзе ж тыя магілкі?

У верасні 1915 года нямецкае кавалерыйскае злучэнне ў складзе шасці дывізій прарвала фронт, захапіла Вілейку і наблізілася да Маладзечна. Аднак 2-я расійская армія здолела разбіць праціўніка пасля жорсткіх дзесяцідзённых баёў у ваколіцах Маладзечна, Вілейкі і Смаргоні. Немцы былі адкінуты да азёр Нарач і Свір. Пасля гэтага фронт на доўгі час усталяваўся на лініі Дзвінск — возера Нарач — Баранавічы — Пінск. Пачалася пазіцыйная вайна.

Маладзечанскі напрамак абараняла 10-я армія Заходняга фронту, штаб якой быў расквартараваны ў будынку Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Зразумела, што і ў бок Краснага пасоўваліся шматлікія тылавыя ўстановы, шпіталі, базы. Усё гэта яшчэ больш ускладніла і без таго цяжкае становішча местачкоўцаў. Праводзіліся бясконцыя рэквізіцыі на патрэбы арміі: коней, буйной рагатай жывёлы, зерня, мукі, фуражу. У сярэдзіне 1915 года Мінскаму губернатару дакладвалі: «Всё населеніе вообще, а крестьяне въ особенности, поставлены въ очень затруднительное положеніе из-за нехватки продуктовъ первой необходимости. У местнаго населенія фуражъ реквизированъ войсковыми частями, въ результате чего оставшійся у крестьянъ скотъ пропадаетъ отъ бескормицы».

Адступленне рускіх войск у 1915 годзе суправаджалася масавым, часта прымусовым бежанствам соцень тысяч людзей на ўсход. Ніхто і нідзе не чакаў гэтых жанчын, дзяцей і старых. Рухаліся яны і праз Краснае — хто пешшу, хто на конях з самым патрэбным хатнім скарбам. На гасцінцы, што праходзіў праз Краснае, збіраліся даўжэзныя абозы бежанцаў. Начавалі пад адкрытым небам, іншы раз і ў местачкоўцаў. Каб выжыць, людзі літаральна спусташалі ўсё наўкол.

Вядома, што ў Красным і бліжэйшых населеных пунктах неадназрова па інтэндантцкіх справах бываў вядомы беларускі тэатральны дзеяч Ігнат Буйніцкі, які тады служыў на адным са складоў у Бухаўшчыне.

Падчас цяжкіх баёў, асабліва калі немцы выкарысталі атрутныя газы, прыфрантавыя шпіталі былі перапоўнены параненымі, якіх стараліся вывезці ў тыл санітарнымі паяздамі, каб у больш спакойнай абстаноўцы аказаць пасільную медыцынскую дапамогу. Восенню 1915 года адзін з такіх шпіталяў знаходзіўся ў Красным. Хутчэй за ўсё, ён размяшчаўся ў эшалоне, які паставілі на запасныя пуці на станцыі Уша. Некаторыя параненыя тут і паміралі. Хавалі іх не на местачковых могілках, а недалёка, на пагорку насупраць ст. Уша. З дапамогай архіўных дакументаў удалося ўстанавіць 13 імёнаў памерлых ад ран. Зразумела, што іх было значна больш. Проста захаваліся не ўсе дакументы, а магчыма, яны знаходзяцца ў іншых архівах. Адпаведныя запісы, у прыватнасці, былі знойдзены ў метрычнай кнізе Куранецкай царквы. Паводле ўспамінаў старажылаў, на запасных пуцях у Красным некаторы час стаяў і бронецягнік.

У Красным быў яшчэ адзін шпіталь для параненых, які месціўся ў будынку школы за царквой. Тых, хто памёр у гэтым шпіталі, таксама маглі хаваць на ваенных брацкіх могілках насупраць станцыі Уша. Не выключана, што хавалі іх і недалёка ад самога шпіталя. У 30-я гады мінулага стагоддзя, калі ў гэтым будынку зноў працавала школа, падчас працы на агародах выпадкова былі знойдзены чалавечыя косці. Гэта маглі быць астанкі памерлых ад ран.

У падтрымку параненых воінаў Літоўская праваслаўная епархія аб'явіла збор ахвяраванняў. На ўтрыманне ложкаў для параненых прапаноўвалася штомесяц уносіць грашовыя ўзносы. Таксама можна было здаць палатно, чыстую споднюю і пасцельную бялізну, цёплую вопратку і абутак, некаторыя прадукты харчавання (гарбату, цукар, яйкі), а таксама часопісы, кнігі, газеты.

На гэты зварот неаднаразова адгукаліся і красненцы. Для аказання духоўнай і матэрыяльнай дапамогі войскам дзеючай арміі і параненым, якія знаходзіліся ў віленскіх лазарэтах, прыхаджане Нова-Краснасельскай царквы сабралі амаль 130 адзінак бялізны і прасцін, больш як 100 часопісаў. Акрамя гэтага, амаль штомесяц ахвяравалася па 2 — 4 рублі.

Пра абстаноўку, якая панавала ў Красным, калі баявыя дзеянні адбываліся зусім побач, расказвае дакумент, які знаходзіцца ў архіве Санкт-Пецярбурга:

«С августа 1915 года через Красное стали проходить наши войска, державшие себя по отношению к населению относительно спокойно. Однако с началом боёв у Молодечно в Красном появились казаки. 4 сентября они стали грабить еврейские лавки <...>.

Грабёж продолжался несколько дней. 14 — 15 сентября в Красное приезжал уполномоченный Общества ремесленного труда Слонима. Жителей в местечке не было. В синагоге были размещены пленные немцы. Свитки Торы разорваны, изрублены, из листов Талмуда казаки делали цигарки».

У краязнаўцы Антона Харытона захаваўся надзвычай цікавы фотаздымак тых часоў, калі нямецкая армія захапіла нашу тэрыторыю. На ім — нямецкія салдаты побач з яго сям'ёй, у якой яны некаторы час кватаравалі ў Канчанах. Як бачым, стаўленне да мясцовага насельніцтва з боку захопнікаў было тады някепскім. Але рэквізіцыі з боку акупацыйных улад працягваліся: жыхары па-ранейшаму павінны былі здаваць харчовыя прадукты і сыравіну. Куды горшыя падзеі чакалі красненцаў падчас Другой сусветнай…

**Сяргей СТАРЫКЕВІЧ**



# Венгерскі вернісаж

Аматары мастацтва добра знаёмыя з творчасцю Вольгі і Юрыя Крупянковых, членаў Саюза мастакоў Беларусі, удзельнікаў рэспубліканскіх і міжнародных выставак, аўтараў персанальных экспазіцый. Гэтым разам у Цэнтры сучасных мастацтваў яны выступілі ініцыятарамі стварэння новага беларуска-венгерскага праекта.



*«Музычны лес».*



*«Мост у невядомасць».*

## ЗРАЗУМЕЛА БЕЗ ПЕРАКЛАДУ

Вольга працуе ў тэхніцы друкаванай графікі, Юрый — жывапісец. У маі яны дэманстравалі свае работы ў галерэі Hevesi венгерскага горада Надзьканіжа. Тут адкрылася іх сумесная персанальная выстаўка «Дуэт». Вольга прадставіла пераважна літаграфіі, Юрый — палотны з розных серый. За 16 гадоў мастакі праілюстравалі таксама больш як 30 кніг.

Ад паездкі ў Венгрыю Крупянковы ў захапленні. Вернісаж праводзіўся ў два этапы: удзень — для дзяцей (са спецыяльнай праграмай і аўтограф-сесіяй), увечары — для дарослых. Арганізатар імпрэзы Іштван Лэндзяк, аўтар дызайнерскай методыкі стварэння цацак з паперы, па якой навучаюцца дзеці ў многіх краінах свету, дырэктар галерэі ўжо 24 гады. За гэты час пазнаёміў суайчыннікаў з творамі многіх мастакоў, у тым ліку індыйскіх, аўстрыйскіх, нямецкіх, славацкіх.

Вольга і Юрый гасцявалі і ў міжнародным арт-цэнтры *Kendlimajorban*, дзе рэгулярна праводзяцца пленэры і сімпозіумы. Кіраўнікі цэнтра высока ацанілі беларускую методыку навучання ў галіне мастацтва і прызналіся, што вельмі зацікаўлены ў супрацоўніцтве з нашай краінай.

Мастакі таксама сталі куратарамі выстаўкі «Бачнае — нябачнае» венгерскай мастачкі Аксаны Бодзіш (Крывуцы). Гэта другая частка доўгатэрміновага беларуска-венгерскага мастацкага праекта, стартам якога з'явіўся «Дуэт». Да ажыццяўлення праекта спрычыніліся супрацоўнікі пасольстваў Беларусі ў Венгрыі і Венгрыі ў Беларусі, Беларускі саюз мастакоў і кафедра дызайну БДУ, а таксама Цэнтр сучасных мастацтваў.

## ЦЯЖКАСЦЯМ НАСУПЕРАК

Адкрыццё выстаўкі «Бачнае — нябачнае» прыйшлося на самы пік адпачынкаў і неверагодную для Мінска спёку, але прысутныя не пашкадавалі: эмацыянальна насычаныя кідкімі колерамі работы Аксаны Бодзіш запрашалі ў свет, напоўнены атмасферай свята. Для мастачкі, на рахунку якой дванаццаць персанальных выставак у розных краінах, гэта дэбют у Беларусі, хаця родам яна з Бабруйска.

У Аксаны абаяльная ўсмешка — мяккая і пяшчотная. І вельмі моцны характар. Мяркуйце самі: падчас вучобы ў Мінскім мастацкім вучылішчы імя Глебава яна адзіная з курса ў далёкія 1980-я не ўступіла ў камсамол. Размеркаваць планавалі ў чарнобыльскую зону. Самастойна знайшла іншае месца, але... Венгерскі хлопец, якога суседзі запрасілі пазнаёміцца з літоўскай дзяўчынай, выпадкова ўбачыў Аксану: зайшла да сяброў па лекі. Неўзабаве ён прывёз маладую мастачку ў венгерскую вёску да бацькоў. Нарадзілася дачушка. Таленту не сталі перашкодай няпросты вясковы побыт, непаразуменні з новай сям'ёй, хвароба свекрыві, якую давялося даглядаць не адзін год.

Аксане нарэшце замовілі некалькі работ — для мясцовага загса. І хаця мастачка кажа, што сёння яны здаюцца проста смешнымі, творы высока ацаніла вядомая венгерская калега.

Яна вывучыла мову, скончыла педагагічны інстытут і, дзесяць гадоў пражыўшы ў Венгрыі, наважылася пасылаць работы на мастацкі конкурс, па выніках якога ў 2003-м была залічана ў Саюз венгерскіх мастакоў.

Творца і сёння працуе ў школе. З-за раскладу заняткаў удзельнічае далёка не ва ўсіх конкурсах і выстаўках, на якія запрашаюць. Але гэта не перашкаджае быць Асобай у сучасным венгерскім мастацтве.

**Паліна ЯРЦАВА**

# Мовай пластыкі

Тры праекты аднаго аўтара можна ўбачыць у сталічным Цэнтры сучасных мастацтваў. Гэта інсталяцыі «Абрыў», «Успаміны пра будучыню» і «Крык» архітэктара-канцэптуаліста Сяргея Шылы, сябра Беларускага саюза дызайнераў.

«Абрыў» прысвечаны памяці акцёра, паэта, барда Уладзіміра Высоцкага. Прадстаўленыя прадметы ў сукупнасці нагадваюць інтэр'ер творчай майстэрні ці пакоя для кватэрніка: партрэт Уладзіміра Сямёнавіча, грыфы і карпусы гітар, грамплацінка, стары табурэт... Ёсць нават нумар газеты «Правда» ад 13 лютага 1980-га (Высоцкага не стала 25 ліпеня таго ж года), паласа з артыкулам пра яго са штотыднёвіка «Аргументы и факты», прымеркаваным да 30-годдзя з дня смерці акцёра і спевака. Яскрава адчуваецца здольнасць С. Шылы пражываць непражытае, а галоўнае — перадаваць гэта публіцы.

Выстаўка «КРОПКА, ці КРОПЛЯ АДліку» ў межах праекта «Крык» — адмысловая інтэрпрэтацыя тэмы «Чорнага квадрата» Казіміра Малевіча з адпаведнымі арт-аб'ектамі — чорнымі дошкамі. Але ў творчасці Сяргея Шылы яна набывае іншае гучанне. Гэта тужлівы роздум пра вечнае, ад унутранага свету кожнага чалавека да гістарычнай трагедыі: нямецкае *der Krieg*, сугучнае слову «крык», азначае «вайна».

Што да праекта «Успаміны пра будучыню», то ў свядомасці міжволі ўзнікае паралель з экспазіцыяй айчыннага музея народнай архітэктуры і побыту: драўляныя прадметы, падобныя да начовак і рукамыйнікаў... Назвы работ схіляюць да роздуму: «Наладзь сувязь з будучыняй», «Маніторынг», «Чэрава жыцця», «Перачытаная кніга» і г. д.

На адкрыццё серыі аўтарскіх праектаў Сяргея Шылы завіталі яго сябры і калегі па творчым цэху: мастакі Дзяніс Барсукоў і Віктар Ціханаў, калекцыянер Сяргей Занімонец, мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн. Цікава выканалі пластычна-харэаграфічны нумар Уладзімір Кустаў і Вераніка Ткачэнка. Аздобілі імпрэзу і спевы Сяргея Шылы ды барда Андрэя Плясанава, вершы маладых паэтэс Людмілы Клачко ды Марыі Літвінавай.

Віншуючы дызайнера з адкрыццём экспазіцыі, Л. Фінкельштэйн, якая, дарэчы, была асабіста знаёмая з У. Высоцкім, заначыла, што ў выстаўцы Сяргей Шыла праяўляе глыбокае разуменне творчасці Уладзіміра Сямёнавіча. Яго спадчыну дызайнер прафесійна візуалізаваў і перастварыў на мове пластыкі.

**Яна ЯВІЧ**




*Нумар газеты «Правда» ад 13 лютага 1980 г. з паласой штотыднёвіка «Аргументы и факты» (элемент інсталяцыі аўтарскага праекта «Абрыў»).*



*Фота Людмілы Клачко*

*«Дыягназ, ці Слухаць!!!» (элемент інсталяцыі аўтарскага праекта «Абрыў»).*

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2313.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 31.07.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3201.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686